Бібліятэка навукова-пазнавальнай літаратуры

АЛЕСЬ КРАЎЦЭВІЧ

# ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ВІТАЎТ

**Нарыс**



**Мінск «Юнацтва» 1998**

*Кожны народ мае сваіх знакамітых людзей. Сярод іх вучоныя, паэты, мастакі, падарожнікі, асветнікі, урачы, дзяржаўныя дзеячы. Яны сваім талентам і ўпартай працай здолелі прынесці вялікую карысць свайму народу і чалавецтву. Такія асобы ніколі не знікаюць з зямлі бясследна. Іхнія справы працягваюць жыць і пасля смерці сваіх творцаў. Здараецца так, што слава гэтых знакамітых людзей перажывае нават народы, якія іх узгадавалі. Напрыклад, ужо тысячы гадоў не існуюць народы элінаў і рымлянаў, але і сёння кожны адукаваны чалавек назаве дзесяткі імёнаў, якія займаюць ганаровае месца ў гісторыі еўрапейскай цывілізацыі: Арыстоцель, Платон, Аляксандр Македонскі, Юлі Цэзар, браты Гракхі, Цыцэрон і многія іншыя.*

*Імя Вітаўта — адно з найслаўнейшых у гісторыі беларусаў. Больш за пяць з паловай стагоддзяў прайшло ад часу смерці гэтага чалавека, але цікавасць да яго не толькі не затухае, але, наадварот, разгараецца. Вітаўт быў вялікім князем, гаспадаром нашай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага. Дзякуючы свайму таленту, надзвычайнай працаздольнасці і нязломнай волі ён прывёў беларуска-літоўскую дзяржаву да вышэйшага росквіту яе велічы і магутнасці.*

*Вітаўт пражыў доўгае і незвычайнае жыццё, поўнае прыгодаў і дзівосных здарэнняў. Былі паходы, бітвы — цяжкія сутыкненні з закаванымі ў бронь нямецкімі рыцарамі, адчайныя сечы з дзікімі татарскімі загонамі. Былі ўцёкі з глыбокіх замкавых лёхаў з пераапрананнем у жаночае адзенне, было роспачнае ратаванне з поля бітвы ад ворага. Але больш было перамог, і яшчэ якіх!*

*Цэлыя краіны, пакораныя і суцішаныя, схіляліся перад нашым князем. Мы хочам распавясці табе, юны чытач, аб жыцці гэтага чалавека. Таму запрашаем услед за намі перанесціся ў дзівосны і таямнічы, страшнаваты і прыцягальны свет беларускага сярэднявечча.*

# ЛІТВА - ЯГО РАДЗІМА

У даўнія-даўнія часы, амаль шэсць з паловай стагоддзяў назад, наша зямля была пакрытая такімі дрымучымі і вялікімі пушчамі, што падарожны мог шмат дзён прабірацца праз іх і не сустрэць чалавечага жытла. Зразумела, тагачасныя лясы ажно кішэлі рознай дзічынай, сярод якой самай магутнай жывёлінай быў нават не зубр, а яшчэ буйнейшы за яго дзікі бык — тур. Між яго рагамі маглі спакойна сесці два чалавекі. У рэчках і азёрах вадзілася такая буйная рыба, што мясцовыя людзі лавілі яе на кручок таўшчынёй з мізінец. Можна ўявіць сабе, якое патрэбна было вудзільна, каб выцягнуць такую здабычу.

Людзей на Беларусі жыло тады разоў у дзесяць ці нават пятнаццаць меней, чым сёння. Наша краіна не называлася яшчэ Беларуссю, заходнюю яе частку называлі Літвой, а ўсходнюю проста — Руссю. Наша дзяржава мела назоў Вялікае княства Літоўскае і была яшчэ даволі маладой — не больш ста гадоў. Аснову яе моцы складалі слынныя старажытныя гарады, такія, як Полацак, Віцебск, Менск, Наваградак, Гародня і яшчэ шмат іншых, якія вядомыя і сёння. Усе яны мелі вялікія і добра ўмацаваныя замкі.

Вось якраз тады, каля 1350 г., у Літве нарадзіўся хлопчык, якога назвалі Вітаўтам. Краіна перажывала цяжкія часы. Па ўсёй Еўропе гуляў страшэнны мор. Людзі паміралі сотнямі і тысячамі. На целе хворых з'яўляліся чорныя плямы, таму немач назвалі «Чорнай смерцю». Толькі ад адной весткі пра яе набліжэнне пусцелі цэлыя вёскі і гарады. Гэта была бубонная чума, занесеная да нас з Азіі. У гэты ж час нашым продкам даводзілася весці вельмі цяжкую і ахвярную вайну супраць рыцараў Тэўтонскага ордэна.

Не бывае такіх ліхалецццяў, каб іх не перажылі людзі, а тым больш звыклыя да гора беларусы[1]. Ратаваліся ад «Чорнай смерці» ды іншых пошасцяў, адбіваліся ад немцаў і патроху мацавалі сваю дзяржаву, лепшыя часы якой былі яшчэ наперадзе. Кіравалі краінай у той час два браты — князі Альгерд і Кейстут — сыны слаўнага Гедыміна. Сам вялікі князь Гедымін загінуў за дзевяць гадоў да нараджэння ўнука Вітаўта. Яго застрэлілі з гарматы пад час аблогі аднаго з крыжацкіх замкаў. Агнястрэльная зброя тады толькі-толькі з'явілася ў Еўропе. Яна была вельмі недасканалая (металічная трубка) і небяспечная ў карыстанні — магла ўзарвацца, калі насыпалі зашмат пораху.

Гедымін пакінуў пасля сябе 7 сыноў і 7 дачок. Сваім сынам ён раздаў у валоданне ўдзелы — буйныя часткі дзяржавы. Цэнтральныя землі са сталічным горадам Вільняй дасталіся аднаму з малодшых сыноў — Яўнуту. Альгерд і Кейстут напачатку прынялі волю бацькі, але праз некалькі гадоў вырашылі, што пры такім падзеле парадку ў краіне не будзе. Яны аб'ядналіся, занялі сталіцу, звялі з вялікакняскага пасада Яўнута і пачалі разам кіраваць дзяржавай. Альгерд прыняў тытул вялікага князя і сеў у сталічнай Вільні. Ён займаўся ўсходнімі справамі дзяржавы: далучаў новыя землі, паспяхова ваяваў з Масквой, нанёс паражэнне татарам у бітве на Сініх водах.

Меншы брат Кейстут прыняў на сябе ўвесь цяжар барацьбы з Тэўтонскім ордэнам. Жыццё гэтага князя-ваяра праходзіла ў бесперапыннай вайне. Ён адбіваў напады крыжакоў і сам спусташаў іхнія землі, помсцячы за страты радзімы. У той вайне перавага ў сіле была на баку крыжакоў. Іх падтрымлівала рыцарства ўсёй Заходняй Еўропы. Амаль кожны год да Прусіі, дзе размяшчаўся Ордэн, з'язджаліся рыцары са сваімі атрадамі, каб ісці ў паходы супраць язычнікаў. На самой справе тэўтонскія рыцары ваявалі не так за веру Хрыстову, як за свае інтарэсы ў Прыбалтыцы. Яны нападалі на беларусаў і гарады-рэспублікі Пскоў ды Вялікі Ноўгарад, нягледзячы на тое, што там таксама жылі хрысціяне. Вайна вялася вельмі жорстка, кожны год рыцары арганізоўвалі

[1] У часы, аб якіх ідзе гаворка, назвы «беларусы» яшчэ не існавала, нашыя продкі зваліся «ліцвінамі» і «русінамі».

адзін ці нават некалькі нападаў на нашыя землі. Стараліся напасці нечакана, палілі і рабавалі вёскі, бурылі замкі (калі ўдавалася іх захапіць), забівалі мужчын, зводзілі ў палон жанчын і дзяцей.

Ліцвіны не паддаваліся, адбіваліся як маглі, будавалі новыя магутныя замкі, хадзілі паходамі на Прусію. У выніку гэтай вайны на мяжы паміж нашай дзяржавай і Тэўтонскім ордэнам утварылася пустынная незаселеная паласа зямлі шырынёй у некалькі дзесяткаў кіламетраў. Людзі баяліся тут жыць, бо гэта было вельмі небяспечнае месца: пастаянна тудысюды праходзілі крыжацкія і літоўскія ваенныя атрады, разведчыкі і проста гурты рабаўнікоў.

На вайну з крыжакамі князь Кейстут паклаў усё сваё жыццё. Ён вызначаўся мужнасцю і высакародствам у баі, таму меў вялікую павагу нават сярод ворагаў. Князь двойчы трапляў у палон да крыжакоў. Першы раз яго абмянялі на вялікую колькасць палонных немцаў, другім разам ён здолеў уцячы з самога Мальбарка — сталіцы ордэнскай дзяржавы. У вязніцы Кейстуту прыслужваў хрышчоны крыжакамі ліцвін, якому тыя давяралі. Князь падгаварыў земляка, і яны разам уцяклі на радзіму, пераапрануўшыся ў крыжацкую вопратку.

Кейстут сябраваў са сваім братам — вялікім князем Альгердам, а той, у сваю чаргу, заўжды быў гатовы дапамагчы грашамі і вайсковай сілай.

Хлопчык, пра якога наша гаворка, нарадзіўся менавіта ў сям'і слаўнага князя Кейстута. Адбылося гэта ў Троках — сталіцы ўладанняў Кейстута. Хлопчык рос у магутным замку, збудаваным яго дзедам Гедымінам на востраве сярод чыстага ляснога возера з маляўнічымі берагамі. Старажытныя песні і паданні, дзівосныя легенды і казкі, пачутыя ад нянек і старых дзядзькоў-вояў, абудзілі ў хлопчыка глыбокую любоў да роднага краю. Усе гэтыя аповяды пра незвычайных волатаў, чарадзеяў, вядзьмарак, лесавікоў, берагіняў прымушалі заміраць і зноў моцна калаціцца сэрцайка.

Вітаўт быў чацвёртым сынам князя, але з цягам часу ён стаў бацькавым улюбёнцам і рыхтаваўся працягнуць справу Кейстута. Князь рос у атмасферы любові і павагі з боку сваякоў і служылых людзей. Разам з тым ён праходзіў суровую школу рыцарскай навукі, бо ў тыя часы быць князем

значыла быць воінам і ваенным правадыром. З малых гадоў Вітаўт старанна вучыўся ездзіць верхам, трапна страляць з лука, дасканала валодаць дзідай, мечам і іншымі відамі зброі. Князь вырас не вельмі магутным з выгляду, ён меў невысокі рост і хударлявы целасклад, але заўжды вызначаўся рухавасцю і кіпучай энергіяй. Ён здзіўляў сучаснікаў сваёй выключнай трываласцю, мог суткамі не злазіць з каня.

Акрамя фізічнай загартоўкі княжыч атрымаў адукацыю, належную чалавеку яго паходжання. Ён валодаў не толькі старабеларускай, але яшчэ нямецкай і лацінскай мовамі. Поруч з бацькам ён з трынаццаці гадоў браў удзел у далёкіх і небяспечных паходах супраць крыжакоў. Ва ўзросце 27 гадоў малады князь упершыню самастойна павёў войска на вайну. Бацька выдзеліў Вітаўту ўдзел — Гарадзенскае княства, дзе той самастойна кіраваў, засвойваў складаную навуку дзяржаўнай службы.

Быў у Вітаўта добры сябар — стрыечны брат Ягайла — сын вялікага князя Альгерда. Альгерд і Кейстут радаваліся дружбе сваіх сыноў. Яны хацелі, каб парадак і згода ў дзяржаве захоўваласяі пасля іхняга адыходу ад кіравання. Міналі гады. Вітаўт і Ягайла жылі весела і дружна. Маладыя сілы і энергія патрабавалі выйсця. Княжычы хадзілі ў баявыя паходы на землі крыжакоў. Гэта было цяжкай і вельмі небяспечнай справай. Патаемна сабраўшы дружыну, прабіраліся яны вузкімі ляснымі дарогамі і звярынымі сцежкамі ў бок Прусіі. Вораг мог падсцерагаць за кожным дрэвам ці лясным завалам, кожную хвіліну магло пачуцца рэзкае трымценне спушчанай цецівы... Далёка наперад і ў бакі высылаліся дазоры, важка адцягвалі плечы даспехі, рука сціскала рукаятку мяча, сэрца поўнілася вострым пачуццём небяспекі і азарту. Князі ішлі на вайну, гэта была іхняя справа.

Амаль такім жа небяспечным было паляванне на буйнога пушчанскага звера. Дзікія быкі, тур ці зубр, лёгка падымалі на рогі паляўнічага разам з канём, маленькая нязграбнасць ці прамаруда маглі каштаваць жыцця. Пазней, стаўшы сталымі мужчынамі і кіраўнікамі буйных дзяржаваў, Ягайла і Вітаўт усё роўна захаваюць любоў да пушчанскіх ловаў і будуць займацца паляваннем да самай глыбокай старасці.

Маладыя князі сталелі, станавіліся дарослымі мужчынамі, рыхтаваліся працягваць справу сваіх бацькоў. Краіна

перажывала не самыя лепшыя гады. Час ад часу праходзілі новыя эпідэміі, працягвалася вайна з Ордэнам, на заходніх межах палалі гарады і вёскі, галасілі жанкі і дзеці. Але ацалелыя людзі зноў вярталіся на папялішчы, зноў адбудоўвалі жыллё, засявалі палеткі. Дзяржава не толькі не аслабела, але патроху мацавалася. Увесь народ, баяры і простыя людзі разумелі небяспеку крыжацкай навалы і ўсё цясней гуртаваліся вакол сваіх князёў для адпору чужынцам. Вялікае княства Літоўскае само магло б справіцца з Ордэнам, калі б не вялікая падтрымка таму з боку Заходняй Еўропы. Краіна трымалася, ставіла заслоны крыжакам на Захадзе і пашырала свой уплыў на Усходзе. Але вось у 1377 г. ва ўзросце 81 года памёр вялікі князь Альгерд. Тады яшчэ ніхто не ведаў, што дзяржаву чакаюць новыя цяжкія выпрабаванні і ўнутраная смута.

**СТАЛЕННЕ ГЕРОЯ**

На вялікакняскім пасадзе ў Вільні Альгерд пакінуў любімага сына Ягайлу. Здавалася, усё засталося па-ранейшаму, і стары Кейстут падтрымліваў пляменніка ў новай ролі. Аднак хутка між імі наступіў разлад. Ці Ягайла паверыў нагаворам на дзядзьку (кажуць, найбольш нагаворвала на Кейстута маці Ягайлы, княгіня Уляна), што той хоча скінуць яго з вялікакняскага пасада, ці то маладому князю хацелася стаць адзіным панам у дзяржаве. Напэўна, прычына была і ў тым, і ў другім.

Вялікі князь Ягайла вельмі любіў уладу і дзеля гэтага парушыў бацькоўскі запавет. У 1380 г. ён уступае ў патаемную змову супраць Кейстута са злейшымі ворагамі айчыны — рыцарамі Тэўтонскага ордэна. Ён дамовіўся, што рыцары будуць нападаць толькі на землі Кейстута, а Ягайла будзе рабіць выгляд, што збіраецца памагаць дзядзьку бараніцца. Для дзяржавы наступілі неспакойныя часы. Князь Кейстут нейкі час нічога не ведаў пра здраду і займаўся сваёй звыклай справай — ваяваў з крыжакамі. Але раптам ён пачаў заўважаць, што ніяк не можа захапіць ворага знянацку, усюды, куды б ні прыйшло яго войска, крыжакі даўно былі гатовыя

да абароны (іх папярэджваў Ягайла). Усё стала зразумелым старому бою, калі ён атрымаў ліст ад кіраўніка з парубежнага крыжацкага замку — той паведамляў аб дагаворы з Ягайлам. Магчыма, рыцары спецыяльна паслалі гэтае паведамленне, каб распачаць у Літве міжусобную вайну. Сапраўды, абураны Кейстут выступіў да Вільні, схапіў Ягайлу з паплечнікамі і знайшоў дакументы, якія пацвердзілі здраду. У гэты час да сталіцы прымчаўся Вітаўт, які знаходзіўся ў сваёй Гародні і нічога не ведаў. Відавочна, толькі праз яго заступніцтва Ягайла не быў строга пакараны — яго адправілі княжыць у родавае ўладанне Крэва.

Але на гэтым справа не скончылася. У Ягайлы былі браты, якія кіравалі буйнымі часткамі краіны і маглі сабраць значную вайсковую сілу ў яго падтрымку. Першым супраць Кейстута выступіў малодшы брат Ягайлы — ноўгарад-северскі князь Дзмітры Карыбут. Кейстут пайшоў на яго вайной. У гэты час Ягайла скарыстаўся зручным выпадкам, захапіў Вільню і пад яе сценамі разбіў дружыну Вітаўта. Кейстут з дарогі павярнуў назад да сталіцы. І вось два войскі сустрэліся і сталі, гатовыя да бітвы, на адлегласці ў некалькі палётаў стралы адно ад другога. З аднаго боку дружыны Кейстута і Вітаўта, з другога — Ягайлы з дапаможным крыжацкім аддзелам.

Толькі крыжакі цешыліся з такога павароту гараваў, літоўскія воі з абодвух бакоў не мелі ніякага жадання праліваць братэрскую кроў. Таму ўсе з надзеяй глядзелі, як ад стана Ягайлы аддзялілася купка вершыкаў — то ехаў на перамовы брат Ягайлы, князь Скіргайла. Ён прывёз прапанову скончыць справу мірам і запрашаў да Ягайлы на мірныя перагаворы. Найбольш узрадаваўся гэтай прапанове Вітаўт, які са скрухай перажываў разлад паміж бацькам і сябрам, шкадаваў парушанай згоды. Асцярожны Кейстут урэшце паддаўся на гарачыя ўгаворы сына і, прыняўшы ад Скіргайлы клятву ў тым, што Ягайла не прычыніць яму ніякай шкоды, паехаў разам з Вітаўтам.

Аднак у лагеры Ягайлы бацьку з сынам акружылі вершыкі і прымусілі накіравацца да Вільні. Войску Кейстута паведамілі, што ўсё ў парадку, і ўзрадаваныя баяры раз’ехаліся па хатах. У Вільні князёў кінулі ў вязніцу. Вітаўт ад перанесенага стрэсу цяжка захварэў. Старога князя па загаду



*Арышт Вітаўта воінамі Ягайлы*

Ягайлы вывезлі ў Крэўскі замак, дзе праз некалькі дзён ён загінуў — быў задушаны. Ягайла адмаўляў сваё дачыненне да смерці дзядзькі, якога шанавала і паважала ўся краіна. Ён загадаў прывезці цела старога ваяра да Вільні і наладзіў яму ўрачыстае пахаванне. Склалі вялікае вогнішча, на якім спалілі цела Кейстута разам са зброяй, коньмі, сабакамі, сокаламі і розным начыннем, як тое было прынята па паганскім звычаі.

Вось так Ягайла дамогся свайго і атрымаў непадзельную ўладу ў Літве. Ён не надта перажываў, што за перамогу было заплачана здрадай, клятвапарушэннем і забойствам. Ва ўсе часы, ва ўсіх краінах знаходзяцца людзі, гатовыя на любое злачынства, каб толькі атрымаць уладу над другімі людзьмі. Падчас гэтых падзей Вітаўт меў за плячамі трыццаць два гады жыцця. То быў ужо сталы мужчына, загартаваны ў ваенных паходах і фізічных практыкаваннях, дасведчаны розумам. Служыць радзіме, як бацька, і жыць у згодзе з Ягайлам, як Кейстут жыў з Альгердам, — вось усё, чаго ён хацеў, да чаго імкнуўся.

Здрада Ягайлы, смерць бацькі, няволя моцна паўплывалі на гэтага ўражлівага і вельмі эмацыянальнага чалавека. Напэўна, яго цяжкая хвароба ў вязніцы — вынік моцнага псіхалагічнага ўзрушэння. Раптоўна разваліўся, разбурыўся ўвесь ранейшы жыццёвы лад, які быў звыклы з дзяцінства, здаваўся такім справядлівым і дасканалым.

Вітаўт ніколі не даравяў свайму быламу сябру смерці бацькі і пазней не раз вінаваціў Ягайлу ў гэтым забойстве. Але пакуль ён не мог і думаць аб помстве, сам сядзеў у няволі і толькі ачуняў пасля хваробы. Яго таксама следам за бацькам вывезлі ў Крэўскі замак. Аднак не такі гэта быў чалавек, каб сядзець і пакорліва чакаць літасці пераможцы. Вітаўт вырашыў ратавацца самому. Дапамагала яму жонка — смаленская князёўна Ганна, якая была побач з мужам і адведвала яго ў цямніцы. Аднойчы яна затрымалася болей звычайнага. Вітаўт пераапрануўся ў адзенне адной са служанак жонкі і так выйшаў з вязніцы. Потым, непрыкметны ў цемры, асцярожна спусціўся па вяроўцы з высокага мура і перабраўся цераз запоўнены вадой роў. Ва ўмоўленым месцы яго ўжо чакалі верныя людзі з асядланымі коньмі.

І вось князь імчыць на поўдзень прэч ад страшнага Крэў-

скага замка з яго жудаснымі лёхамі і вечна сырымі сценамі (замак ўзведзены напалову на балоце). Сапраўды, замак у Крэве — не самая вясёлая мясціна на Беларусі. Сёння яшчэ яго руіны ўражваюць падарожнага сярэднявечным духам.

Шлях Вітаўта ляжаў у Мазовію да сястры, якая была замужам за мазавецкім князем. Аднак мазур адмовіў у прытулку, баючыся сапсаваць адносіны з вялікім князем літоўскім. Куды падзецца ўцекачу, якому не было месца на радзіме? Вітаўт мог накіравацца ў Еўропу да двара германскага імператара, мог паехаць на службу да маскоўскага князя. Але і тут, і там яго на ўсё жыццё чакала роля найміта, выканаўцы чужой волі. Такая доля не падыходзіла гордаму ўнуку Гедыміна.

Ён хацеў быць уладаром у сваёй краіне. Сэрца прагнула помсты за смерць бацькі, за тое, што яго самога змусілі стаць уцекачом выгнанцам. Ён, чалавек, які не ўчыніў ніякага злачынства, павінен бадзяцца па чужых краінах, глытаць пыл чужынскіх дарог, сілкавацца кавалкам чужога хлеба. А здраднік Ягайла, загубіўшы свайго дзядзьку, захапіўшы ўсё яго майно, балюе ў сталічнай Вільні.

Асабліва балюча, што гэты забойца быў найлепшым сябрам. Вітаўт любіў яго больш за родных братоў, а той здрадліва карыстаўся гэтым сяброўствам. Нават тады, калі ўжо задумаў здраду і пад выглядам палявання паехаў дамаўляцца з крыжакамі, то ўзяў з сабой Вітаўта, каб не абудзіць падазрэнняў дзядзькі. І пакуль Вітаўт займаўся ловамі, Ягайла рыхтаваў згубу ягонаму бацьку!

Такое не даруецца. Куды б ні паехаў, дзе б ні быў, у сэрца грукае прага помсты, і няма чалавеку спакою. Але што можа зрабіць ён, ледзь уратаваны з няволі, амаль безабаронны, з купкай верных баяраў, якія таксама ратуюцца ад гневу Ягайлы. Заставаўся толькі адзін шлях, дзе можна было знайсці дапамогу, — у Тэўтонскі ордэн.

Для тых часоў пераход на бок ворага быў звыклай справай, многія паны рабілі так шмат разоў дзеля ўласнай выгоды. Аднак Вітаўту было цяжка зрабіць падобны крок. Тэўтонскі ордэн — заняты вораг яго радзімы. Бацька Вітаўта ўсё жыццё паклаў на змаганне з крыжакамі, і сам Вітаўт з дзяцінства ведаў: крыжакі — ворагі, якія хочуць пагубіць яго і з якімі не можа быць згоды. Аднак выбіраць не выпадала, і Вітаўт

ступіў на гэты шлях. Тут не было месца шчыраму сяброўству, вернасці крыві і братэрскай любові. Усё вырашала ўлада. Яна была мэтай, яна была богам. За яе здраджвалі, пераступалі клятву, забівалі, ішлі вайной на родную зямлю.

Пераход князя на бок крыжакоў зрабіў вялікае ўражанне на сучаснікаў. Імя Вітаўта побач з імем Кейстута было сцягам барацьбы ліцвінаў за незалежнасць сваёй дзяржавы. Калі Вітаўт паслаў ганцоў на Жамойць (даўняе ўладанне бацькі) з заклікам збірацца да яго ў Прусы, то жамойты не маглі даць веры, што іх князь можа быць у хаўрусе з крыжакамі.

Крыжакі ахвотна прынялі ўцекача, хоць у іх была мірная дамова з Ягайлам. Рыцары карысталіся любым сродкам, каб аслабіць свайго галоўнага ворага — Вялікае княства Літоўскае. І найлепшы з іх — унутраная вайна між ліцвінамі.

З Вітаўтам рыцары абыходзіліся не надта ветліва, бо для іх ён быў дробным тубыльскім князьком, які не мае ні зямлі, ні войска. Падчас першай сустрэчы хохмайстар (кіраўнік Ордэна) сказаў яму: «Чаму прыйшоў не раней, калі меў віленскі замак, а цяпер, калі не маеш ні людзей, ні зямлі?»

Вітаўт глыбока схаваў свае сапраўдныя пачуцці да крыжакоў, ён навучыўся не зважаць на абразы і ветліва ўсміхацца нават у той момант, калі хацелася пусціць у справу меч. Школа выгнання — вельмі жорсткая школа, і Вітаўт шмат чаму ў ёй навучыўся. Найперш ён навучыўся цярпець і чакаць свайго часу. Ад Тэўтонскага ордэна яму была патрэбна дапамога супраць Ягайлы. Галоўнай задачай князя становіцца адваёва бацькоўскай спадчыны. Дзеля гэтага ён быў гатовы на ўсё, нават на вайну супраць роднай краіны.

Аднак крыжакі не вельмі спяшаліся даваць Вітаўту войска, а трымалі яго як пагрозу для Ягайлы, спадзеючыся такім чынам змусіць вялікага князя на новыя ўступкі. Сапраўды, Ягайла добра ведаў цану свайму былому сябру і пабойваўся таго нават у выгнанні. Таму спачатку ён ва ўсім саступаў рыцарам, пакуль тыя не захацелі паставіць пад сваё падпарадкаванне самога вялікага князя разам з усёй яго дзяржавай. Тут ужо Ягайла не вытрымаў і адверг нахабныя патрабаванні. Тэўтонскі ордэн адразу ж абвясціў вайну Вялікаму княству Літоўскаму і выдзеліў войскі Вітаўту.

На чале крыжацкіх ваенных аддзелаў Вітаўт хадзіў вай-

ной на сваю радзіму. Палалі вёскі і гарады, крыжацкія рыцары і жаўнеры забівалі ліцвінаў, рабавалі іх маёмасць, сотнямі і тысячамі вялі ў палон жанчын і дзяцей. Князь абыякава глядзеў на слёзы і пакуты суайчыннікаў, водблескі пажараў не запальвалі гневам яго вачэй, сэрца яго скамянела і не адгуквалася на боль простых людзей. Князем валодала адна прага, адна мэта — вярнуць сабе бацькоўскую спадчыну, стаць уладаром у сваёй краіне.

Вітаўт падпісваў пагадненні, якія яму навязваў Ордэн, згадзіўся на перадачу часткі Літвы і Жамойці і нават на пераход усіх сваіх уладанняў да крыжакоў.

Пазней Вітаўт перанёс страшэнную і непапраўную страту — раптоўна памерлі двое яго маленькіх дзетак Іванка і Юрачка, якія выхоўваліся ў Ордэне. Хадзілі чуткі, што іх атруцілі крыжакі, каб адпомсціць князю за здраду Ордэну і потым забраць сабе яго землі. Урэшце ў Вітаўта засталася толькі адна дачка Соф’я.

У 1383 г. Вітаўту удалося на кароткі час здабыць сабе родавае гняздо — Трокі, але ўтрымацца там ён не здолеў. Рыцары хрысцілі князя па каталіцкаму абраду і далі нямецкае імя — Віганд. Навaспечаны хрысціянін Віганд зноў і зноў хадзіў вайной на Літву, зноў і зноў помсціў Ягайлу. Нарэшце той вырашыў, што выгадней замірыцца з Вітаўтам, чым цярпець такія страты ад вайны. Акрамя таго, Ягайла ў гэты час збіраўся стаць яшчэ польскім каралём праз жаніцьбу з маладой польскай каралевай Ядзвігай. Каб заняцца жаніцьбай, яму патрэбен быў спакой у Літве.

Здаецца, мэта Вітаўта ўжо блізка. Ягайла патаемна прыслаў да яго паслоў, прасіў міра і сяброўства, узамен абяцаў вярнуць бацькоўскія ўладанні. З боку Вітаўта пярэчанняў не ўзнікла. Зразумела, пасля ўсяго, што між імі здарылася, не было гаворкі аб нейкіх сяброўскіх пачуццях, вяртанні юнацкай дружбы. Гэта быў кампрамісны саюз двух палітыкаў, кожны з якіх меў на ўвазе ўласныя мэты і задачы.

Нарэшце Вітаўт мог выказаць свае сапраўдныя пачуцці да крыжакоў, скінуць маску добразычліўца і вернага васала[1],

[1] Так у сярэднявеччы называўся пан, які падпарадкоўваўся другому, буйнейшаму ўладару — сюзэрэну.

адпомсціць за ўсе крыўды і прыніжэнні. Рыцары надоўга запомнілі адыход Вітаўта з Прусаў у ліпені 1384 г. Князь са сваёй дружынай знянацку захапіў і разбурыў некалькі крыжацкіх замкаў, пазабіваў многіх рыцараў і з трыумфам рушыў да Літвы. Пачаўся новы этап жыцця і дзейнасці нашага героя. Наперадзе былі новыя выпрабаванні, здабыткі і расчараванні, новыя сваркі і замірэнні з Ягайлам.

## УЛАДА ВЫШЭЙ ЗА ЎСЁ

Вітаўт зноў на радзіме. Здавалася, ён дасягнуў таго, за што так упарта змагаўся і плаціў такой дарагой цаной. Беркута бацькава спадчына. Аднак становішча Вітаўта ў дзяржаве было зусім не падобнае на адносіны Кейстута з Альгердам. Там быў раўнапраўны саюз, змацаваны братэрскім сяброўствам. Ягайла ж і не думаў раўняць з сабою былога сябра, а паставіў Вітаўта ў шэраг іншых удзельных князёў, залежных ад уладара Літвы. Ен перадаў Вітаўту не ўсе кейстутавы землі. У Троках сядзеў малодшы брат вялікага князя — Скіргайла, той самы, які ў 1382 г. падманнай клятвай прывёў Вітаўта з бацькам у рукі ворага. Ягайла не хацеў скласці афіцыйны дакумент, дзе былі б юрыдычна замацаваныя яго адносіны са стрыечным братам.

Вітаўт на першых часах выступае як верны васал Ягайлы і падтрымлівае таго ва ўсіх справах. Галоўная з іх — жаніцьба вялікага князя на Ядзвізе, а затым каранацыя на польскае каралеўства. Ягайла дамогся-такі свайго, пераадолеўшы ўсе перашкоды. Самай непрыемнай акалічнасцю было тое, што Ядзвіга ўжо была заручаная з аўстрыйскім герцагам Вільгельмам і шчыра кахала таго. Вільгельм патаемна прыехаў у Кракаў, аднак польскія паны, якія хацелі бачыць каралём ліцвіна, выправадзілі аўстрыяка са сталіцы і давялі справу да патрэбнага ім выніку.

Ягайла дорага заплаціў за каралеўскі тытул. Найперш яму давялося аддаць агромністую суму грошай (з дзяржаўнай

скарбніцы вялікага княства) у якасці адступнога аўстрыйскаму жаніху. Затым ён нядоўга думаючы вырашыў ахвяраваць незалежнасцю сваёй радзімы і ў 1385 г. у Крэве падпісаў унію, якая прадугледжвала ўключэнне вялікага княства ў польскае каралеўства. Акрамя таго новаму каралю давялося пісьмова даць цэлы шэраг шлюбных абяцанняў палякам. Сярод іх — вяртанне усіх земляў, захопленых крыжакамі, і цэлы шэраг прывілеяў панам, якія прывялі яго да кароны. Вітаўт разам з іншымі ўдзельнымі князямі павінен быў асобнай граматай пацвердзіць усе Ягайлавы абяцанкі і сваю вернасць польскай кароне. Ён суправаджаў Ягайлу на каранацыю ў Кракаў і нейкі час заставаўся там. Палякі, відаць, баяліся, што хітры Ягайла, атрымаўшы карону, можа хутка забыцца на свае абяцанні.

Вітаўт шмат рупіўся над гаспадарчым развіццём сваіх земляў, падтрымліваў гандаль і рамёствы. Князь таксама мужна абараняў Літву. Разам з братамі Ягайлы ён здабываў ордэнскія замкі і адбіваў крыжацкія напады. На ўсходзе даў рашучы адпор смаленскаму князю, які сабраўся захапіць Мсціслаў і Воршу. Адначасова Вітаўт пачаў рыхтавацца да адкрытага выступлення супраць Ягайлы. У яго накапілася шмат крыўдаў на новаспечанага польскага караля, які хацеў па ранейшаму панаваць над Літвой. Абяцаў бацькаву спадчыну, ды не ўсю аддаў. Не хацеў даваць ніякіх пісьмовых гарантыяў і збіраўся нават вывесці Вітаўта з родавых уладанняў і адправіць княжыць на поўдзень у чужыя землі. Ягайла крыўдзіў братоў Вітаўта, дарыў каталіцкай царкве землі з яго ўладанняў.

Незадаволенасць Ягайлам шырылася па ўсёй Літве. Ліцвіны не хацелі ні ад каго залежаць, тым больш ад палякаў. Яны заўжды былі вольным народам і стварылі магутную дзяржаву. А тут сам вялікі князь з лёгкасцю згаджаецца на далучэнне яе да Польшчы, уводзіць у літоўскія гарады польскія залогі, аддае землі і замкі палякам. Вітаўт вырашыў скарыстаць выгадную сітуацыю і падтрымаць незадаволеных. Урэшце ён стаў на чале барацьбы ліцвінаў за незалежнасць сваёй краіны.

Аднойчы ў пачатку 1389 г. Вітаўт патаемна сабраў на нараду ліцвінскіх баяраў, каб дамовіцца аб сумесных дзеяннях. Вынікам той нарады стала спроба хітрасцю захапіць

Вільню. Сястра Вітаўта выходзіла замуж, і князь папрасіў дазволу правесці шлюбныя ўрачыстасці ў сталіцы. Быццам дзеля гэтага ён паслаў у Вільню вялікі санны абоз, які суправаджалі ўзброеныя людзі. Аднак хітрасць раскрылі, і абоз быў затрыманы. Пасля гэтага здарэння становішча Вітаўта ў Літве стала яшчэ больш няпэўным і небяспечным. Ён прыняў рашэнне зноў пакінуць радзіму і ўступіць у саюз з Тэўтонскім ордэнам.

Крыжакі не забыліся на падзеі, якія адбыліся шэсць гадоў назад, яны не даравалі Вітаўту разбураных замкаў і пабітых рыцараў. Але палітычныя разлікі ўзялі верх над крыўдамі. Вітаўт быў ужо не той адзінокі ўцякач выгнаннік, на Прусы ішоў сталы палітык з моцнай падтрымкай па ўсяму Вялікаму княству Літоўскаму. Аднак на гэты раз яго прымалі з вялікай насцярогай і падазронасцю. Напачатку да Прусіі выклікалі ў якасці закладнікаў бліжэйшых сваякоў князя: малодшага брата Жыгімонта, жонку Ганну, сястру Рынгалу. 19 студзеня 1390 г. Вітаўт выдаў Ордэну дакумент, дзе абяцаў выканаць усе ранейшыя дамовы, прыйсці ў Прусы і аддаць свой лёс у рукі Бога і хохмайстра Тэўтонскага ордэна.

З Прусаў Вітаўт пачынае новы рашаючы этап змагання за ўладу ў Літве. Разам са сваімі прыхільнікамі, крыжацкім войскам, шматлікімі еўрапейскімі рыцарамі-«гасцямі» ён праводзіць небывалыя па размаху паходы на Літву і найперш на Вільню. Зноў з дапамогай ворагаў ён здабываў сабе дзяржаву і зноў ад гэтага цярпеў просты люд яго радзімы. У 1390 г. тры вялікія войскі адправіліся з Прусаў у ваенны паход на Вільню. Адным з тых атрадаў камандаваў сам Вітаўт. Сярод мноства еўрапейскіх рыцараў вылучаўся заморскі каралевіч — будучы кароль Англіі Генрых IV. Войскі пустошылі ўсё, што траплялася на іхнім шляху, па Нёмане везлі абложныя машыны. Сярод якіх былі катапульты велічынёй з добры дом.

Вільню баранілі галоўным чынам польскія залогі, і хоць прыхільнікі Вітаўта падпалілі Крывы горад, сталіца ўстаяла. Абодва бакі пацярпелі падчас аблогі значныя страты, загінуў брат Ягайлы Карыгайла і брат Вітаўта Таўцівіл. Не скарыўшы замкаў, крыжакі з вялікай здабычай адышлі.

Вітаўт станавіўся ўсё больш небяспечным для Ягайлы.



*Вітаўт у ордэнскім войску*

Справа ішла да таго, што ён мог пры падтрымцы ліцвінаў усталявацца ў Літве. Вітаўт ужо здабыў уласнымі сіламі без крыжацкай падмогі сваю Гародню. Тут справа таксама не абышлася без унутранай падтрымкі. Ліцвіны з залогі нечакана напалі на палякаў, захапілі іх і перадалі Вітаўту разам з ключамі ад замка. Вырас міжнародны аўтарытэт Кейстутавіча. Маскоўскі вялікі князь Васіль Дзмітравіч узяў за жонку яго дачку Соф'ю. Спецыяльнае пасольства, мінаючы ўладанні Ягайлы, прыехала ў Прусію за маладой. Соф'я накіравалася ў далёкую Масковію таксама кружным шляхам праз Балтыйскае мора і стала вялікай княгіняй маскоўскай.

Урэшце Ягайла вырашыў зноў мірыцца з братам і зрабіць Вітаўта саюзнікам, пакуль той сам не ўзяў, што хацеў. Аднак узнікла адна цяжкасць — крыжакі пільна сцераглі Вітаўта, а патрэбна было ўсё абгаварыць і паразумецца. Ягайла хутка знайшоў магчымасць паслаць надзейнага чалавека, не абуджаючы падазрэнні тэўтонаў. Тым чалавекам стаў адзін з мазавецкіх князёў — Генрых. Ён карыстаўся даверам у Ордэне, бо атрымаў нямецкае выхаванне, і прыбыў зараз да Прусаў у якасці афіцыйнага прадстаўніка польскага караля. Генрых наладзіў сувязь з Вітаўтам і паціху давёў справу да агульнай згоды. Цяпер Вітаўту патрэбна было арганізаваць вяртанне на радзіму, пакуль рыцары ні аб чым не ведалі. Ён правёў гэтую аперацыю бліскуча. Спачатку пачаў патроху збіраць да сябе ў замак Рыттэрсвердэр сваякоў і верных прыхільнікаў. Па яго прозьбе хохмайстар адпусціў жонку, затым па чарзе прыехалі князі і баяры. Не ўдалося забраць толькі малодшага брата Жыгімонта. Пасля адыходу Вітаўта той доўгія шэсць гадоў правядзе ў крыжацкай няволі, пакуль брат не вызваліць яго.

Наступіў вызначаны час. Каб зусім заспакоіць сваіх наглядчыкаў, Вітаўт сабраў замежных «гасцей» быццам для паходу на Літву. Раптоўна літоўская дружына напала на крыжакоў у замку, захапіла і разбурыла ўмацаванні. Затым гэтак жа нечакана Вітаўт захапіў яшчэ два ордэнскія замкі і, адаслаўшы еўрапейскіх рыцараў, накіраваўся ў Літву. Насустрач яму выехаў Ягайла. 5 жніўня 1392 г. у Востраве на Гродзеншчыне стрыечныя браты заключылі афіцыйную дамову, вядомую ў гісторыі як Астроўскае пагадненне. Нарэшце Вітаўт стаў вялікім князем літоўскім.

## РУПЛІВЕЦ ГАСПАДАРСТВА

Перад новым вялікім князем ляжала агромністая краіна, аслабленая войнамі і міжусобнымі сварамі. Хоць паводле традыцыі Вітаўт меў афіцыйны тытул гаспадара дзяржавы, сапраўдным гаспадаром ён не быў. Многія ўдзельныя князі лічылі сябе ледзь не цалкам самастойнымі ўладарамі сваіх земляў. Самымі моцнымі з іх былі Альгердавічы — браты Ягайлы, якія ў большасці ставіліся да Вітаўта варожа. Ягайла падчас перамоваў здолеў навязаць як мага болей выгодных для яго і невыгодных для Вітаўта ўмоваў. Вітаўт вымушаны быў прызнаць сябе васалам польскага караля. Аднак гэта не вельмі непакоіла вялікага князя былі б сілы, то будзе і воля. Значна цяжэй складваліся яго адносіны са сваімі ўдзельнымі князямі. Першым паўстаў Дзмітры Карыбут, які вяваў яшчэ супраць Кейстута. У адкрытым баі Вітаўт яго разбіў, захапіў у палон і адправіў у Кракаў на суд каралю. Падобны лёс напаткаў шмат каго з тых, хто не хацеў паддавацца волі вялікага князя.

Гэты невысокі і няўтратны з выгляду чалавек з заўсёднай лагоднай усмешкай на вуснах меў нязломную волю, умеў без знешніх эфектаў прывесці да пакоры любога і мог, не змяніўшыся ў твары, прысудзіць чалавека да смерці. Княскі гнеў быў страшнейшы за смерць. Летапісец паведамляе, як падчас грунвальдскага паходу два ліцвінскія вої былі спайманыя на рабаўніцтве. Іх прывялі да Вітаўта, і той без лішніх слоў загадаў ім самім сябе павесіць. Тыя не прамарудзілі выканаць загад, надзелі сабе на шыі петлі.

У 1395 г. раптоўна развітаўся з жыццём галоўны сапернік Вітаўта ў Літве — Скіргайла Альгердавіч. Летапіс паведамляе, што князь памёр ад атруты. Шмат хто лічыў, што тут не абышлося без Вітаўта. Усяго праз некалькі гадоў пасля яго ўзыходу на вялікакняскі пасад Літва зноў стала адзінай дзяржавай з моцнай цэнтральнай уладай.

Вітаўт паступова скарыў удзельных князёў, адных разбіў у адкрытым баі, другіх перавёў на меншыя ўдзелы. Адначасова князь мацаваў сваю галоўную апору ў дзяржаве — служылае баярства. Атрымліваючы ад вялікага князя маёнткі, паса-

ды, узнагароды, баяры былі гатовы служыць уладару душой і целам і без ваганняў пакласці за яго галаву. Вітаўт умеў быць шчодрым і ніколі не пакідаў без узнагароды верную службу. Шмат хто разбагацеў з яго дараванняў.

Гісторыя памятае здарэнне, калі адзін паляк, верна спраўшы службу вялікаму князю, збіраўся вярнуцца на радзіму. Вітаўт паклікаў яго да сябе і надзяліў значнай сумай грошай. Побач якраз была жонка князя Уляна (князь жаніўся другі раз пасля смерці Ганны). Яна пачала вымаўляць мужу за тое, што ён раздае дзяржаўныя грошы. Вітаўт нічога не адказаў, толькі падвоіў узнагароду. Жонка зноў не сцярпела. Так адбывалася некалькі разоў, пакуль спалоханая кабета не замоўкла. Паляк, разгублены ад нечаканасці, паехаў на радзіму багацеем.

Патроху пашыраўся ўплыў Літвы на Русі. Асабліва прыязныя адносіны склаліся з Цвярскім княствам — адвечным сапернікам Масквы. З рэспублікамі Псковам і Вялікім Ноўгарадам Вітаўт то мірыўся, то пагражаў вайной і хадзіў на іх у паходы. У 1389 г., выконваючы яго волю, ноўгарадцы прынялі да сябе князем выдатнага літоўскага палкаводца Сямёна Лінгвена Альгердавіча.

Вітаўт быў шчодрым уладаром, справядлівым суддзёй і верным сябрам. Але ён мог быць таксама хітрым і жорсткім палітыкам. Аб апошнім сведчыць яго ўчынак са смаленскімі князямі. У 1395 г. вялікі князь сабраў войска і аб'явіў паход супраць татараў. Па дарозе ён падышоў да Смаленска і спыніўся побач з горадам. Смаленскае княства было амаль незалежнай дзяржавай і мела сваю княскую дынастыю. Аднак мясцовыя князі сварыліся між сабой, дзялілі і ўсё ніяк не маглі падзяліць уладу. Вітаўт запрасіў да сябе ў лагер двух варагуючых князёў, каб вырашыць іх спрэчку. Тыя, узрадаваныя, прыехалі — спадзяваліся, што уладар Літвы сваім аўтарытэтам спыніць разлад між імі. Аднак даверлівых смалянаў чакала горкае расчараванне. Вітаўт прыйшоў да Смаленска зусім не для таго, каб займацца дробнымі мясцовымі звадамі. Па яго загаду смаленскія князі былі схоплены і вывезены ў Літву. Літоўскае войска заняло горад, а потым і ўсё княства.

Пасля апошняга разрыву Вітаўта з Ордэнам крыжакі пачалі помсціцца і павялі вайну супраць Літвы з небывалым

да гэтага імпэтам. Войскі Ордэна амаль штогод урываліся ў межы Вялікага княства, нішчылі паселішчы, забіралі ў палон мясцовы люд. Яшчэ нядаўна Вітаўт сам поруч з рыцарамі ўдзельнічаў у такіх нападах, а цяпер ён старанна арганізоўвае абарону і рашучы адпор крыжакам.

У тагачаснай вайне галоўнай задачай было своечасова даведацца аб намерах ворага, яго сіле і накірунку пахода. Для гэтага ствараласся дасканалая сістэма вывяду. Памежная варта трымала пад наглядам лясныя дарогі, рачныя броды, каб пры першым з'яўленні ворага перадаць па ланцужку ў бліжэйшы замак сігнал трывогі. Тады ва ўсе бакі ляцелі ганцы, людзі з навакольных вёсак беглі да замка, неслі свой скарб, гналі жывёлу. Збіраліся мясцовыя баяры і рыхтаваліся да абароны. Аднак не так шмат было на мяжы магутных замкаў, каб усе маглі ў іх схавацца. Таму мясцовы люд рыхтаваў сабе сховішчы ў дрымучых гушчарах і непраходных балотах, ладзіў тайнікі для захавання збожжа і маёмасці.

Вось наехалі крыжакі, падступілі да замка, пачалі рыхтавацца да аблогі: апраналі даспехі, рыхтавалі балісты і тараны. Развяваліся харугвы, бегалі жаўнеры і збраяносцы, трубілі ражкі. Сярод шэрай масы выдзяляліся постаці ў белых плашчах з чорным крыжам на грудзях. Гэта рыцары Тэўтонскага ордэна.

Асобна выстройваюцца атрады прыезджых еўрапейскіх рыцараў гасцей. Яны апранутыя больш страката і ярка. На шчытах і харугвах намаляваныя каляровыя рыцарскія гербы. Пачынаецца аблога замка. Абложныя машыны-балісты і гарматы са страшэннай сілай б'юць каменнымі ядрамі ў замкавыя муры, шпурляюць у двор гаршкі з палаючай смалой.

Калі ўдавалася зрабіць у сцяне пралом, то туды кідаліся штурмавыя групы з лесвіцамі. Іх прыкрывалі арбалетчыкі і лучнікі, якія безупынна абстрэльвалі байніцы замка. Рыцары Тэўтонскага ордэна былі спрактыкаванымі ў аблозе і штурме замкаў, ведалі шмат розных прыёмаў і хітрасцяў. Пад прыкрыццём вялізных шчытоў-насцілаў жаўнеры і палонны мясцовы люд (яго гналі пад прымусам) падбіраліся да замкавага рова і засыпалі яго ў патрэбным месцы галлём, каменнем, зямлёй. Тады ў справу ўводзілася драўляная штурмавая вежа на калёсах. Гэтае збудаванне спецыяльна выкарыстоўвалася для штурму замкаў і рыхтавалася загадзя. Вежу

ў разабраным выглядзе падвозілі да месца, хутка даводзілі да ладу і ставілі на колы. Потым яе павольна пасоўвалі ўпрытык да замкавых муроў, і ўдарныя групы з самых моцных і адчайных вояў пераскоквалі з яе на замак і мечамі пракладвалі дарогу астатняму войску.

Падрыхтоўка і выкарыстанне вежы было вельмі складанай задачай, якая далёка не заўсёды вырашалася паспяхова. Нейкая выпадковасць ці пралік маглі сапсаваць усю справу. Найперш патрэбна было дакладна вызначыць вышыню вежы, бо калі яе верхняя пляцоўка знаходзілася ніжэй замкавай сцяны, то ўся работа аказвалася марнай. Вельмі няпроста было падвесці вежу да патрэбнага месца. Калі роў быў засыпаны недастаткова шчыльна, то магло праваліцца кола і засесці ў выбоіне — ні ўзад ні ўперад.

Абаронцы ў гэты час не спалі ў шапку. Яны таксама мелі багаты баявы вопыт, умелі будаваць балісты і трапна страляць. На вежу абвальваліся агромністыя камяні, сыпаліся запальныя стрэлы, спецыяльныя атрады былі гатовыя ў зручны момант падабрацца да яе, каб разваліць або падпаліць. Часта вежа не паспявала і блізка падабрацца да замкавых муроў, як ужо палала, развальвалася пад градам камянёў. Звычайна абложнікі адначасова выкарыстоўвалі розныя метады штурму, каб раздзяліць сілы абаронцаў, прымусіць іх змагацца адразу ў некалькіх месцах. Не грэбавалі подкупам і катаваннем палонных, каб даведацца аб слабых месцах абароны і патаемных выхадах з замка.

Паспрабуем уявіць, як адбываўся штурм замка. Балісты крыжакоў беспярапынным боем зрабілі ў верхняй частцы сцяны шырокі пралом, куды можна дабрацца па лесвіцы. У некалькіх месцах пад прыкрыццём шчытоў удалося заваліць абарончы роў. Ужо стаіць на колах штурмавая вежа, у ёй схаваліся людзі, гатовыя па першым сігнале зрушыць гэтую махіну і пасоўваць у патрэбным кірунку. Затаіліся штурмавыя групы, забяспечаныя доўгімі лесвіцамі, вяроўкамі з крукамі, расстаўлены лучнікі і арбалетчыкі стралковага прыкрыцця. Усе гатовыя, кожны ведае сваё месца і баявую задачу.

Пачынае світаць, спачатку амаль непрыкметна, а потым усё хутчэй і хутчэй начныя прыцемкі саступаюць месца дзённаму святлу. Усё выразней вымалёўваюцца ў ранішнім тумане

суровыя і строгія абрысы ліцвінскага замка. Там таксама не спяць і чакаюць. Яны ведаюць аб атацы. Такія рэчы немагчыма рыхтаваць незаўважна. Здаецца, неймаверная трывожная напруга, якая авалодала тысячамі ўзброеных, гатовых да бою людзей, хваляй сягае за замкавыя муры і перадаецца іх абаронцам. Там усю ноч адчуваўся нейкі рух. Ліцвіны спрабавалі заваліць пралом у сцяне, рыхтавалі зброю і рыштунак. Але пад раніцу і там усё сціхла.

На макаўцы спічастай вежы замка, пакрытай чырвонай дахоўкай, бліснуў першы сонечны прамень. Сонца — зорка, якая паклала пачатак зямному жыццю, зараз мусіла стаць сігналам для смерці. Пачуўся высокі гук баявога ражка, і ўсё прыйшло ў рух. З лязгам апусціліся на твар прылбіцы шлемаў, рукі сціснулі рукаяткі мечаў і перакладзіны лесвіцаў, зашчоўкалі механізмы зарадкі арбалетаў, натужна зарыпелі колы абложнай вежы. Штурмавыя атрады высоўваюцца з прыкрыцця і подбегам кіруюцца да замкавых сценаў. Грудзі напаўняе свежае ранішняе паветра, вось ужо чуваць посвісты першых ліцвінскіх стрэл. Трапечуцца харугвы, ляскоча зброя, гудзяць трубы, з сотняў грудзей вырываецца глухі рык, каб падбадзёрыць сябе, заглушыць страх.

Многае залежыць ад гэтых першых хвілін бою. Самы нязначны поспех аднаго ці другога боку можа акрыліць або прывесці ў роспач войска і вырашыць усю справу. Вось запалала штурмавая крыжацкая вежа і з замка данёсся шматгалосы пераможны крык. Вось са сцяны над праломам сарваўся ўніз праняты арбалетнай стралой ліцвін, і адразу — радасны покліч у шэрагах штурмавікоў. Полымя на вежы ўдалося збіць, яна няўмольна сунецца наперад, дзесяткі лесвіц прыхінуліся да сценаў, найбольш каля пралома, па іх, як саранча, лезуць наверх рыцары і жаўнеры. Абаронцы сякерамі разносяць у шчэпкі драбіны, басакамі адпіхваюць іх ад сцяны, льюць на галовы крыжакам кіпень, гарачую смалу, нечыстоты, скідваюць буйныя камяні і бярвенні. З абодвух бакоў свішчуць стрэлы.

Воі звярэюць ад страху, болю, крыві, многія губляюць кантроль над сабой, скідваюць цесныя шлемы. Адзін крыжак, вылезшы ў пралом з мечам у руцэ, раптам рынуўся ўсім целам уніз, прама на дзіды абаронцаў. Групе крыжакоў удаецца прабіцца праз пралом у замак. Тут ужо гатовы іх сустрэць.

Насупраць пралома выстраены спецыяльны ўдарны атрад ліцвінаў. Наперадзе яго шэраг арбалетчыкаў. Яны даюць залп ва ўпор па штурмавіках і разбягаюцца ў бакі, прапускаючы калону цяжкаўзброеных вояў. Праз некалькі хвілін роспачнай сечы група крыжакоў знішчана — ацалелыя ад стрэл, палеглі пад дзідамі і мячамі.

Прыпыніўся рух аблложнай вежы, яна засела ў рове ў некалькіх кроках ад сцяны замка. Адзін з крыжацкіх вояў у азарце скочыў з яе верхняй пляцоўкі прама на дах баявой галерэі замка. Ён упаў грудзьмі на дахоўку, пачаў апаўзаць, зачапіўся рукамі, завіс нагамі над байніцай і стаў выбірацца наверх, але ў гэты момант быў працяты з байніцы дзідай і з роспачным крыкам паляцеў уніз. Вежу ўсё ніяк не ўдаецца зрушыць з ямы, абаронцы з трох бакоў кідаюць на яе палаючыя паходні, гаршкі са смалой, ва ўпор расстрэльваюць вояў, пакуль тыя не пакідаюць вежу, каб не згарэць зажыва.

Праз нейкую гадзіну становіцца зразумелым, што штурм адбіты. Ліквідаваны невялікія групы аблложнікаў, якія здолелі прарвацца на замкавыя сцены, але не атрымалі своечасовай падтрымкі, палае аблложная вежа.

Нарэшце камандзір крыжацкага войска дае загад трубіць адбой. На душы ў яго прыкра. Усё было арганізавана як след, і быў момант — ён адчуў, што справа зроблена, калі групе атакуючых удалося пераадолець пралом у сцяне. Ён адразу накіраваў туды рэзервовы атрад, каб развіць поспех. Але калі атрад пачаў набліжацца да сценаў, раптам камень з замкавай балісты збіў з ног яго камандзіра. Некалькі хвілін затрымкі, пакуль выносілі параненага, дорага каштавалі крыжацкаму войску. Ліцвіны ліквідавалі прарыў і зноў наладзілі абарону.

Комтур — правадыр паходу — зразумеў: гэты замак ён зараз не возьме. Мала людзей, мала харчовых прыпасаў, мала часу. Калі затрымацца яшчэ на некалькі дзён, то можна трапіць пад удар літоўскай падмогі, а не дай Бог сам вялікі князь наедзе з адборным войскам. І вось крыжакі кіруюць дамоў у Прусы, яны вязуць параненых і здабычу, вядуць палонных.

Пройдзе шмат гадоў, і археолагі падчас раскопак будуць знаходзіць сляды той сечы: вялізныя старанна абчасаныя каменныя ядры ад балістаў, дэталі лука ці арбалета, важкія

сталёвыя наканечнікі арбалетных стрэлаў. Аўтару гэтых радкоў давялося ўдзельнічаць у раскопках аднаго з такіх замкаў ў горадзе Ліда. Там сярод знаходак быў арбалеты болт, які глыбока ўрэзаўся ў конскі чэрап, так яго і перадалі ў музей. Рэчы з археалагічных раскопак, ды яшчэ скупыя радкі крыжацкай хронікі — вось амаль і ўсё, што дайшло да нас ад тых далёкіх падзей, ад людзей, якія былі іх удзельнікамі.

Але нават з тых сціслых нешматслоўных апісанняў хроністаў мы адчуваем напоўненасць тагачаснага жыцця, адчуваем дух сярэднявечча. Вось, напрыклад, урыўкі з паведамлення аб адным з вялікіх крыжацкіх паходаў на Літву, у якім, верагодна, удзельнічаў сам храніст. У 1394 г. хохмайстар Ордэна Конрад фон Юнгінген арганізаваў выправу, якая мела мэтай адбудову знішчанага ліцвінамі замка Рыттэрсвердэр і напад на Вільню. Войска складалася з ордэнскіх аддзелаў, рыцараў з Францыі, Германіі, а таксама наймітаў — 150 бургундскіх лучнікаў. Пакуль крыжакі плылі па невялікіх рэках да Нёмана, жамойты данеслі аб гэтым Вітаўту. Слухаем далей храніста 14 ст.: «Магістр са сваімі людзьмі хутка плыў на лоддзях па Нёмане, дайшоў да Рыттэрсвердэра, стаяў там чатыры дні і чуў, як надышоў Вітаўт з вялікім войскам, які прыбыў да гэтага краю з нядобрымі намерамі і гарматамі. Ён страляў па палатках магістра, вялікага маршала, а найбольш па палатцы комтура з Балгі. Хохмайстар таксама загадаў нацэліць свае гарматы на ворага».

Некалькі дзён прайшло ў перамовах і дробных сутычках. Вітаўт ухіляўся ад бітвы і перашкаджаў крыжакам адбудоўваць замак. Нарэшце ордэнскае войска, не выканаўшы першай задачы, накіравалася ў бок Вільні па кароткай дарозе. Далей зноў слова храністу: «Схапілі аднаго ліцвіна, ад якога даведаліся, што Вітаўт стаў у лесе паміж засекамі ў васьмі далінах, ён мае гарматы і да іх безліч боепрыпасаў і ў яго войску былі жмудзіны. Пачуўшы гэта, хохмайстар правёў нараду, адважыўся ісці іншай дарогай цераз пушчу. Той дарогай прусакі ніколі не хадзілі і пракладалі сабе шлях і клалі масты праз дрыгву. На ноч хохмайстар стаў у нейкім вялікім лесе, дзе мала меў спакою і дзе не знайшлі пашы для коней».

Нарэшце крыжакі прайшлі пушчу і выйшлі да сталіцы вялікага княства. Распачалася аблога віленскіх замкаў. Ліц-

віны мужна трымаліся і выходзілі біцца з ворагам за муры. Ім дапамагаў Вітаўт, які пастаянна быў непадалёк з моцным войскам і праз разведчыкаў пільна сачыў за ўсімі дзеяннямі ворага. Зноў слова храністу: «Ноччу 400 чалавек (ліцвінаў) выйшлі з замка, каб напасці на спаўшых лучнікаў і гарматы. Але сустрэлі брата[1] Ёгана фон Штрыфена, комтура з Брандэнбурга, які выйшаў у дазор; яго па-непрыяцельску пачалі біць стрэламі, але на крык на дапамогу комтуру прыбеглі людзі з Балгі. І так біліся ўночы».

Бесперапынным гарматным абстрэлам крыжакі ў некалькіх месцах разбілі замкавыя муры, але прарвацца ў замак не здолелі. «Хацелі таксама новым ровам адвесці ваду ад сценаў замка і пачалі капаць яго, але шмат прусакоў было паранена, таму кінулі працу, пакінуўшы равы, як даўней былі. Выбілі таксама пралом у муры, праз які быццам ластаўкі (ліцвіны) вылятаючы і вяртаючыся з дзідамі і мечамі забівалі хрысціянаў і зноў папраўлялі прабіты мур. Прыдумлялі розныя хітрасці, якімі дражнілі войска, бо беглі да шалашоў (крыжацкіх), быццам хацелі іх запаліць, і ўжо ўстанавілі гарматы для страляння па хрысціянах. Аднаму двараніну адарвала абедзве галёнкі, другі быў забіты наганамі, і так ад каменняў і стрэлаў шмат хрысціянаў пацярпела, а войска было змушана адступіць».

Крыжакі вярнуліся ў Прусы, не выканаўшы пастаўленых задач. Пасля гэтага паходу некалькі гадоў прайшло ў дробных стычках, перамовах і перамір'ях.

У 1398 г. Вітаўт зрабіў чарговы паварот у сваёй знешняй палітыцы, скіраваўшы пагляд на Усход. Перад гэтым ён пастараўся забяспечыць спакой на заходняй мяжы дзяржавы і дамогся мірнага пагаднення з Ордэнам шляхам часовых уступак крыжакам. Непасрэдным штуршком да замірэння з рыцарамі стаў абразлівы ліст, пасланы вялікаму князю польскай каралевай Ядзвігай. Гэтая кабета ўдзельнічала ў дзяржаўных справах не менш за Ягайлу і мела не менш за яго ўлады. Яна не любіла Вітаўта найперш за тое, што ён мала лічыўся з Польшчай і вёў самастойную палітыку. Раздражнёная жанчына, падбухтораная сваімі дарадцамі, паслала вялікаму князю ліст, у якім запатрабавала, каб Літва

[1] Рыцары Тэўтонскага ордэна называлі адзін аднаго братамі.

ў знак васальнай залежнасці заплаціла даніну Польшчы. Вітаўт сабраў да сябе на раду баяраў і запытаў іх, ці згодныя яны быць пад палякамі. Абураныя ліцвіны заявілі, што іхні край заўжды быў вольны.

Неўзабаве Вітаўт заключыў мір з Тэўтонскім ордэнам, вядомы ў гісторыі як Салінскае пагадненне 1398 г. Салін — востраў у ніжнім цячэнні Нёмана. Сюды ў атачэнні вялікай світы з’ехаліся вялікі князь з хохмайстрам і пастанавілі: Вітаўт саступае Ордэну частку земляў у Жамойці і дапамагае збудаваць два ці тры замкі на мяжы, а рыцары адпускаюць з палону яго брата Жыгімонта. Вітаўт будзе дапамагаць Ордэну заваёўваць Пскоў, а рыцары Вітаўту — Вялікі Ноўгарад.

Улетку 1398 г. Вітаўт вадзіў сваё войска ў стэп і прывёў адтуль шмат палонных татараў, якіх ён рассяліў па Літве. Нашчадкі тых палоннікаў і сёння жывуць у нас на Гродзеншчыне ды Віленшчыне. Яны засвоілі беларускую мову, але захавалі даўнюю веру — мусульманства.

Новая выправа ў стэп рыхтавалася няспешна і грунтоўна. Татарскія орды былі галоўнай перашкодай да пашырэння ўплываў Літвы на паўднёвую частку Русі. Са стэпу заўжды павявала пагрозай. Напады качэўнікаў былі імклівымі і спусташальнымі. Пасля іх заставалася пустка. Вітаўт спачатку імкнуўся выкарыстаць дыпламатычныя сродкі. Ён прыняў да сябе хана Тахтамыша, які пацярпеў няўдачу ў змаганні за ўладу ў Залатой Ардзе і ратаваўся ўцёкамі. Вітаўт абяцаў хану дапамогу і сваё слова стрымаў — пройдзе час і Тахтамыш стане татарскім уладаром.

Летам 1399 г. у паход на татараў выправілася моцнае літоўскае войска, а таксама дапаможныя аддзелы палякаў і рыцараў Тэўтонскага ордэна (адпаведна 400 і 100 капейшчыкаў). Месцам збору быў Кіеў. Вось войска ўступае ў стэп. Рыцары і жаўнеры пачуваюць сябе ўпэўнена, ідуць і едуць спакойна — ніхто ў стэпе не асмеліцца напасці на такую магутную армію. Сустрэча з ардой адбылася на рацэ Ворскле. Хан Цемір-Кутлук, пабачыўшы моц хрысціянскага войска, пачаў перамовы аб міры.

Вітаўт патрабаваў, каб татары прызналі вяршэнства над сабой Літвы і ў знак гэтага плацілі даніну, а на сваіх манетах чаканілі партрэт вялікага князя літоўскага. Цемір-Кут-

лук не пярэчыў, толькі папрасіў некалькі дзён на роздум. Як потым высветлілася, хітры татарын наўмысна зацягваў час, бо чакаў падмацаванне. І вось на пяты дзень перамоваў з грукатам і крыкам, скрыпам нязмазаных колаў і ржаннем коней са стэпу насунулася цёмная маса вершнікаў і павозак — то прыйшла другая татарская арда. Вёў яе хан Эдыгей. Цяпер перавага ў сілах была ўжо на карысць стэпавых жыхароў.

Ханы паводзілі сябе незалежна і з выклікам, чулі сваю сілу. Эдыгей нават дазволіў сабе пакпіць з Вітаўта. Яшчэ нядаўна той патрабаваў ад Цемір Кутлука называць яго бацькам у знак прызнання першынства Літвы. Цяпер жа Эдыгей са здзекам заявіў, што ён разумее жаданне Вітаўта называцца бацькам Цемір-Кутлука, бо той маладзейшы. Але, ў сваю чаргу, Вітаўт павінен называць бацькам яго — Эдыгея як самага старэйшага сярод іх. Вялікі князь разгневаўся і вырашыў на полі бою паказаць Нехрысцю, хто ёсць хто. Іншыя князі і дарадцы раілі Вітаўту не прымаць бітву, а як найхутчэй падпісваць мірную дамову, але дарэмна. Вялікі князь прагнуў помсты і рваўся ў бойку.

Пачалася бітва. Татары ўсёй сваёй масай навалiліся на хрысціянаў, тыя моцна трымаліся, але ўрэшце былі літаральна змецены лавінай дзікай татарскай конніцы. Хто мог, той ратаваўся ўцёкамі. Першым пабег Тахтамыш. Сам Вітаўт у роспачы ўцякаў, днём і ноччу не злазячы з каня. Выратавалася толькі невялікае войска, астатнія воі злажылі галовы на чужыне ў тым нешчаслівым паходзе. На полі бою загінула каля дваццаці князёў і дзесяць слыннейшых тэўтонскіх рыцараў. Татары таксама панеслі значныя страты, памёр ад раны хан Цемір-Кутлук. Татарская лава следам за ўцекачамі дакацілася да Кіева, узяла з горада багаты выкуп і са здабычай павярнула ў стэп.

Цяжкае паражэнне на Ворскле не было катастрофай для вялікага княства. У паходзе ўдзельнічала толькі частка літоўскага войска. Але на нейкі час Вітаўту давялося адмовіцца ад знешнепалітычных планаў.

Найперш Вітаўт узяўся за рускія справы, якія патрабавалі шмат клопату. Адбыліся ваенныя сутыкненні з разанскімі і вяземскімі князямі, якія скончыліся перамогай Літвы. Многа непрыемнасцяў прынеслі Вітаўту смаляне. Яны паўсталі, забілі вялікакняскага намесніка і пасадзілі на кня-



*Бітва на рацэ Ворскле*

жэнне аднаго з мясцовых князёў. Тры паходы на Смаленск правёў Вітаўт, пакуль у 1405 г. праз здраду аднаго са смалянаў не заняў горад, на гэты раз канчаткова. У 1406 г. вялікі князь нечакана напаў на пскоўскі прыгарад Каложу, захапіў шматлікі палон і вывеў у Літву. У Гародні да нашага часу частка горада мае назву Калежа, як мяркуюць, менавіта тут Вітаўт пасяліў тых палонных.

Пасля Ворсклы вялікаму князю давялося часова змяніць свае адносіны да Польшчы. Літоўскія ўдзельныя князі, а потым і сам Вітаўт зноў выдаюць граматы на вернасць польскаму каралю. У сваю чаргу, польскія паны абяцаюць ва ўсім падтрымліваць ліцвінаў.

Зацятую барацьбу супраць Вітаўта вёў малодшы брат Ягайлы — князь Свідрыгайла. Ён быў вельмі неўраўнаважаным чалавекам і ў гневе станавіўся шалёным. Свідрыгайла шмат разоў то ўцякаў з Літвы, каб змагацца супраць Вітаўта, то вяртаўся назад і мірыўся з вялікім князем. Ён пабываў і ў германскага імператара, і ў маскоўскага князя, неаднойчы з'язджаў у Прусію, пакуль падчас чарговай змовы не быў схоплены і пасаджаны ў турму.

Няроўна складваліся адносіны Літвы з Тэўтонскім ордэнам. Замірэнне на востраве Салін трывала да 1401 г., потым зноў запанавала варожасць. Затым у 1404 г. у Рацяжы быў заключаны мір паміж Літвой, Польшчай і Ордэнам. Некальк гадоў пасля гэтага Вітаўт уладкоўваў справы на ўсходзе і ў самой Літве. Але каля 1408 г. ён прыйшоў да рашэння, што пара ўсур'ёз заняцца самым небяспечным, самым страшным і непрымірымым ворагам — крыжакамі. Пачалася падрыхтоўка да Вялікай вайны.

## ВЯЛІКАЯ БІТВА

Тэўтонскі ордэн быў для Вялікага княства Літоўскага пастаяннай і страшнай пагрозай. Нягледзячы на шматлікія замірэнні, розныя мірныя дамовы, абодва бакі разумелі іх нетрываласць і непрацяглацсь. Справа ішла аб жыццёвых інтарэсах. Рыцары нямецкага паходжання ў свой час здолелі стварыць магутную

арганізацыю ў Палесціне, потым перабраліся ў Прыбалтыку і стварылі тут невялікую, але багатую і моцную дзяржаву. Галоўнай прычынай іх ваенных поспехаў была падтрымка ўсяго каталіцкага свету. Рыцары Тэўтонскага ордэна не мелі права ўступаць у шлюб, таму іх маёмасць і пасады не маглі перадавацца ў спадчыну ад бацькі да сына. Ордэн папаўняў свае шэрагі за кошт непарыўнага паступлення маладых шляхціцаў з Германіі. Рыцараў у Ордэне ніколі не было вельмі многа, у найлепшыя часы іх колькасць не перавышала 700 чалавек. Сваёй дзяржавай яны кіравалі калектыўна. Кожны рыцар займаў якую-небудзь кіруючую пасаду, а ў час вайны камандаваў атрадам. Аснову эканомікі дзяржавы стваралі сяляне, якія складаліся з заваяваных крыжакамі тутэйшых людзей — прусаў, а таксама каланістаў з Германіі, Чэхіі, Польшчы.

Рыцары заснавалі вялікую колькасць гарадоў. Да Прусаў запрашалася таксама шляхта, якая не ўступала ў рыцары, а несла службу Ордэну за зямельны надзел. Прусія багацела дзякуючы прадуманай і добра арганізаванай гаспадарцы. Ордэн меў свае шматлікія філіі ў Еўропе, якія таксама прыносілі значныя прыбыткі. Маючы буйныя і пастаянныя даходы, рыцары мелі магчымасць выставіць на вайну моцнае войска з наймітаў. Дзесяткі і сотні рыцараў з усіх еўрапейскіх краінаў са сваімі атрадамі ледзь не штогод збіраліся да Прусаў, каб прыняць удзел у паходах супраць язычнікаў. Калі ўлічыць яшчэ значныя ўласныя ваенныя сілы, то стане зразумелым, як невялікая ордэнская дзяржава магла нароўных змагацца з Вялікім княствам Літоўскім, каралеўствам Польскім і нават перамагаць іх.

Галоўнай задачай Тэўтонскага ордэна лічылася барацьба з язычнікамі да таго часу, пакуль яны не прымуць хрысціянства. Таму, каб апраўдаць свае войны з каталіцкай Польшчай і праваслаўна-каталіцкай Літвой, рыцары стараліся запэўніць увесь свет, што гэтыя краіны падтрымліваюць язычнікаў, а хрысціянства прынялі толькі для выгляду. Наступ на літоўскія і польскія землі праводзіўся няспынна і арганізавана. Рыцары дзе подкупам ды хітрыкамі, а найчасцей ваеннай сілай захоплівалі ўсё новыя і новыя ўладанні. Цяжкаўзброенае, закаванае ў латы войска ўпарта прабівалася ў глыб чужой тэрыторыі, забівала мужчын, брала ў палон

жанчын і дзяцей. Потым будаваўся замак, у якім заставалася залога. Адсюль арганізоўвалі новыя паходы.

Крыжакі ўпарта імкнуліся злучыцца па сушы са сваёй філіяй у Лівоніі. Для гэтага ім патрэбна было захапіць Жамойць. Пасля працяглай барацьбы крыжакі прымусілі Вітаўта падпісаць перадачу Ордэну гэтай зямлі. У Польшчы крыжакі адабралі Памор'е і некаторыя іншыя землі. Урэшце Вітаўт вырашыў, што прыйшла пара сур'ёзна заняцца Ордэнам. Ён лёгка паразумеўся з Ягайлам, які ў свой час даў абяцанне вярнуць палякам усе захопленыя крыжакамі ўладанні. Так пачаў стварацца цесны саюз двух славянскіх дзяржаў супраць агульнага ворага. Вітаўт і Ягайла трымалі свае нарады ў сакрэце, запісаў не вялі, таму даследчыкі толькі здагадваюцца аб дэталях іх дамовы.

Зімой 1408 г. стрыечныя браты сабраліся ў Наваградку. Відаць, якраз тады выспела рашэнне аб расправе з Ордэнам. Два мудрыя ліцвіны, меўшыя за плячамі дзесяткі гадоў ваеннага вопыту і дасведчаныя ў дзяржаўным кіраванні, задумалі небывалую справу. Яны вырашылі выправіць даўнюю памылку князя Конрада Мазавецкага, які ў 13 ст. прывёў Тэўтонскі ордэн у Прыбалтыку, і зліквідаваць ордэнскую дзяржаву ў Прусах. Для таго часу гэта была сапраўды небывалая задума. Галоўнай мэтай тагачаснай вайны лічылася спусташэнне, а ў лепшым выпадку захоп прыгранічнай вобласці варожай дзяржавы.

Вітаўт і Ягайла даўно пазбавіліся сантыментаў у адносінах між сабой. Саюз уладароў будаваўся на чыста практычнай аснове ўзаемнай выгоды і супадзенні інтарэсаў. Саюзнікі цалкам давяралі адзін другому, бо Тэўтонскі ордэн быў найстрашнейшым ворагам абедзвюх дзяржаў. Вялікі князь і кароль распрацоўвалі план вайны, абдумваючы і ўзважваючы кожную драбніцу. Рыцары таксама рыхтаваліся да вайны. І крыжакі, і ліцвіны з палякамі вербавалі жаўнераў-прафесіяналаў, праводзілі дыпламатычную падрыхтоўку. У Польшчы з Літвой былі саюзныя адносіны з чэшскім каралём Вацлавам і венгерскім Жыгімонтам, аднак Ордэн перацягнуў іх на свой бок, заплаціўшы агромністыя сумы грошай. У 1408 г. Вітаўт заключыў перамір'е са сваім зяцем — маскоўскім князем Васілём Дзмітравічам, і можна было не асцерагацца ўдару ў спіну. Крыжакі стараліся пасварыць

Вітаўта з Ягайлам, а вялікі князь рабіў выгляд, што ў яго няма ніякага саюзу з польскім каралём.

У самым канцы вясны 1409 г. на Жамойці выбухнула паўстанне супраць крыжакоў. Жамойты палілі крыжацкія замкі, забівалі немцаў, якія не паспелі ўцячы. Вітаўт тайна падтрымаў гэтае паўстанне. Рыцары рыхтаваліся ісці вайной на Жамойць і Літву, яны паслалі пасольства да польскага караля, каб даведацца, ці будуць палякі падтрымліваць Вітаўта. Ягайла, у сваю чаргу, выслаў да хохмайстра пасольства з прапановай мірна вырашыць канфлікт з Жамойцю. Польскія паслы ніяк не хацелі даваць адказ на прамое пытанне, ці будзе Польшча перашкаджаць Ордэну ў барацьбе з паўстанцамі. Нарэшце хохмайстру ўдалося выведаць у кіраўніка польскага пасольства сапраўдныя намеры Ягайлы. Маўляў, калі Тэўтонскі ордэн нападзе на Літву, то польскі кароль павядзе войска на Прусію. Адказам рыцараў было аб'яўленне вайны Польскаму каралеўству. 16 жніўня ордэнскія войскі перайшлі мяжу і пачалі пустошыць польскія землі. Так пачалася Вялікая вайна 1409 — 1411 гг.

Палякі былі не гатовыя да ваенных дзеянняў. За два тыдні крыжакі здабылі ўсе галоўныя замкі Добжыньскай зямлі. У Жамойці перавагу мелі жамойты і ліцвіны.

У канцы верасня ў паход рушыла галоўнае польскае войска. 6 кастрычніка яно вярнула замак Быдгашч, і на гэтым ваенныя дзеянні ў 1409 г. былі скончаны. Польшча і Ордэн заключылі перамір'е на восем з паловай месяцаў - «да заходу сонца» 24 чэрвеня 1410 г. Спрэчку паміж суседзямі даручылі рассудзіць чэшскаму каралю. А мы ўжо ведаем, што ён быў падкуплены крыжакамі. Рашэнне Вацлава было на карысць Ордэна. Палякі і ліцвіны не збіраліся яго прызнаваць. Зноў пачалася актыўная падрыхтоўка да вайны. Крыжакі спрабавалі ў чарговы раз пасварыць Вітаўта з Ягайлам, на гэты раз з дапамогай венгерскага караля. Той падчас сустрэчы з вялікім князем прапанаваў яму каралеўскую карону і саюз супраць Польшчы. Вітаўт тут жа спыніў перамовы і аб усім паведаміў Ягайле. Калі князь вяртаўся ў Літву, крыжакі спрабавалі яго перахапіць у дарозе. Вялікі маршал нечакана напаў на Ваўкавыск, захапіў і спаліў горад, але Вітаўт у гэты час быў ужо ў Слоніме.

У снежні 1409 г. вялікі князь і кароль сабраліся на нара-

ду ў Бярэсці. Адначасова было наладжана паляванне ў Белавежскай пушчы. Мяса дзікіх звяроў засольвалі ў бочках. Усім, у тым ліку і крыжацкім шпегам, стала ясна, што рыхтуюцца харчовыя прыпасы да паходу.

Хохмайстар Ульрых фон Юнгінген збіраў і аналізаваў інфармацыю, якую дастаўляла добра арганізаваная разведка Ордэна. Крыжацкія шпікі пад выглядам купцоў, вандроўных манахаў, святароў перамяшчаліся па Літве і Польшчы, выведвалі подкупам і хітрасцю важныя звесткі і перадавалі іх у ордэнскую сталіцу Мальбарк. Па ўсім выходзіла, што ворагі збіраліся нанесці ўдары па Прусіі з розных бакоў: Літва — з усходу, Польшча — з поўдня. Адпаведна гэтаму меркаванню крыжакі пачалі рыхтаваць свой план вайны. Галоўная задума — затрымаць наступ варожых войскаў з дапамогай шматлікіх добра ўмацаваных замкаў, прымусіць ліцвінаў і палякаў з вялікімі цяжкасцямі здабываць гэтыя замкі і такім чынам знясіліць іх. Потым перайсці ў наступ і разбіць ворага.

На самай справе высновы кіраўніцтва Ордэна аб намерах саюзнікаў былі памылковымі. Вітаўт і Ягайла збіраліся весці вайну зусім іншым чынам і толькі рабілі выгляд, што намерваюцца наступаць на Прусы з двух бакоў. Яны да апошняга трымалі сваю задуму ў сакрэце, войскі рыхтаваліся, але не ведалі, куды яны будуць накіраваныя. Сапраўдныя намеры ліцвінаў стануць вядомыя толькі ў ліпені 1410 г.

Надышло лета 1410 г. Вітаўт і Ягайла дзейнічалі адпаведна свайму плану. Яны здолелі абхітрыць крыжакоў. Спецыяльна выдзеленыя вайсковыя аддзелы праводзілі падрыхтоўку да паходу каля ордэнскай мяжы. Крыжацкія шпегі даносілі аб гэтым свайму начальству, і тое рыхтавалася да нападу з двух бакоў. Буйныя групоўкі крыжацкіх войскаў былі выдзеленыя для прыкрыцця магчымых накірункаў наступу ворагаў. Галоўная армія збіралася ў цэнтры краіны.

Вітаўт і Ягайла на самой справе задумалі злучыць свае войскі ў адно і напасці на Прусію разам. Яны рабілі выгляд, што збіраюцца наступаць у розных кірунках, каб ордэнскае войска не перашкодзіла злучэнню. План удаўся.

Набліжалася заканчэнне перамір’я. І днём і ноччу не спыняўся рух у крыжацкіх замках. Доўгія абозы падвозілі прыпасы, працавалі кузні — Ордэн рыхтаваўся да абароны.

І днём і ноччу па літоўскіх дарогах прабіраліся атрады вершнікаў і пехацінцаў — ліцвіны ішлі да месца збору. Літоўскае войска збіралася каля ракі Нараў. Вялікімі і маленькімі атрадамі, групамі і паасобку з усіх канцоў неабсяжнай краіны сцякаліся воі, як ручаіны да ракі. Добра ўзброеныя, на дагледжаных конях.

Кожны ведаў сваё кап'ё і харугву[1]. Не бралі з сабой вялікага абозу — наперадзе была далёкая дарога. З гэтай жа прычыны ў войску было няшмат пяхоты і невялікая колькасць лёгкіх гармат. Збіралася войска, выстройвалася да паходу. Трапяталіся на ветры прапорцый на хуткіх, як вецер, невысокіх конях насіліся татары з атрада саюзнага хана Джэлалэддзіна. Лёгкая татарская конніца была выдатна прыстасаваная для разведкі, аховы войска ў паходзе і асабліва ў пагоні за разбітым ворагам. Аднак стэпавікі гэтак жа лёгка маглі кінуцца і ў рабунак мірных паселішчаў, таму за імі патрабаваўся пільны нагляд.

Нарэшце ўсё гатова. Князь узняў руку, і адразу пранізліва зараўлі паходныя ражкі і дуды, ударылі бубны, уся разнашэрсная маса сярэднявечнага беларускага войска скранулася і рушыла, на хаду падстройваючыся, раўняючыся, набіраючы паходны тэмп. Едуць, гайдаюцца ў такт конскай хадзе баявыя літоўскія і русінскія баяры рыцары — вопытныя воі, загартаваныя ў бясконцых войнах і паходах. З крыжакамі біліся яшчэ іх дзяды і прадзеды. Яны заўжды ў баявой гатоўнасці, іх не заспееш знянацку, яны ў агонь і пекла пойдуць за сваім князем і ў любы момант гатовыя ахвяраваць за яго жыццём. Па бакавых дарогах і далёка наперадзе войска гойсаюць татарскія і ліцвінскія дазоры; сцерагуць шлях, разведваюць пераправы, высочваюць варожых шпегаў. Хоць з крыжакамі перамір'е да 24 чэрвеня і яны яшчэ нічога не ведаюць аб гэтым паходзе, але шлях ляжыць уздоўж ордэнскай мяжы, а вораг ёсць вораг. Ужо высланыя да караля Ягайлы надзейныя ганцы, якія нават пад катаваннем не выдадуць ворагу вестку, прызначаную каралю: «Вялікі князь з войскам ідзе да Віслы!»

У Мазовію да Чэрвінска сыходзіліся польскія войскі.

[1] Х а р у г в а - назва палка, а таксама сцяга.

[2] Невялікі сцяг для арыентацыі вояў у паходзе.

Ажыццяўлялася стратэгічная задума Вітаўта з Ягайлам — арміі дзвюх краінаў збіраліся ў адзін кулак, каб потым усёй сілай абрынуцца на варожую краіну. Такому тарану немагчыма было супрацьстаяць. Галоўная задача саюзнікаў зрабіць так, каб армія ордэна трапіла пад гэты таран, прыняла бой у адкрытым полі, а не адседжвалася ў замках. Для гэтага Вітаўт і Ягайла вызначылі накірунак руху прама на ордэнскую сталіцу — Мальбарк.

А што крыжакі? Яны па-ранейшаму не здагадваліся аб сапраўдных намерах ворага. Ужо калі Вітаўт рухаўся да Віслы, то атрады, пакінутыя ім у Літве, напалі на прыгранічныя ордэнскія землі. Рыцары, як і раней, чакалі ўдару з двух бакоў. Не дапамагла і выдатная ордэнская разведка. Хохмайстар не хацеў даваць веры сведцы, які на ўласныя вочы бачыў на пераправе цераз Віслу Вітаўта побач з Ягайлам.

Аб'яднаная саюзная армія дакладна выконвала план. Баявы дух войска быў высокім. Усе адчувалі, што гэта не звычайны паход, ніхто ніколі не бачыў такой масы войскаў, сабраных у адно цэлае. Воі ішлі ваяваць за святую справу, кожны меў да крыжакоў асабістыя рахункі. Здзіўленне і захапленне выклікаў пантонны мост, наладжаны для пераправы цераз мнагаводную Віслу. Войскі арганізавана перайшлі на правы бераг, затым мост разабралі на часткі і сплавілі да Плоцка, каб выкарыстаць на зваротнай дарозе.

9 ліпеня войскі саюзнікаў перайшлі мяжу з Прусіяй і накіраваліся ў глыб краіны. Кіраўніцтва Ордэна, на рэшце, зразумела план ворага. Па загаду хохмайстра ордэнская армія перакрыла дарогу на сталіцу і пачала рыхтавацца да бою. Сабраць аддзелы, якія прыкрывалі літоўскую мяжу і дарогу на Памор'е, ужо не было часу…

Войскі сустрэліся ў сярэдзіне ліпеня паміж вёскамі Грунвальд і Таненберг. Адбылася знакамітая бітва, вядомая ў гісторыі як Грунвальдская (яшчэ яе называюць Таненбергская, або Дубровенская — па бліжэйшым горадзе), у якой вырашаліся лёсы Еўропы. У ёй удзельнічала каля 60 тысяч чалавек — агромністая па тых часах лічба.

Раніцай 15 ліпеня войскі выстраіліся тварам у твар на пакатых пагорках між Грунвальдам і Таненбергам. Аднак

бітва не пачыналася. Развяваліся харугвы і плюмажы[1] на шлемах, лесам стаялі дзіды, сонца бліскала на сталёвых даспехах і зброі. Скакалі ў розныя бакі ганцы, войскі не рухаліся. Крыжакі не хацелі наступаць першымі. Яны прый-шлі сюды раней за ліцвінаў з палякамі і паспелі падрыхтаваць пазіцыю: выкапалі і замаскіравалі ямы-пасткі, за імі паставілі артылерыю і арбалетчыкаў. Чакалі, каб ворагі пайшлі ў наступ і натрапілі на пасткі ды гарматны абстрэл.

Саюзнікі не пачыналі бітву з-за польскага караля. Вітаўт даўно быў гатовы, кіпеў энергіяй, рваўся ў бой, а Ягайла бавіў час у малітве і цырымоніях. Нарэшце, блізка да поўдня, немцы прыслалі два мячы для вялікага князя і караля з заклікам да бою. Па камандзе Вітаўта літоўскае войска з поклічам: «Вільня!» рынулася ў атаку. Скрануўся з месца і левы польскі фланг, на хаду спяваючы «Багародзіцу».

Надзеі крыжакоў на пасткі і артылерыю не апраўдаліся. Наперадзе была лёгкая манеўровая конніца, якая не панесла значных стратаў. Артылерысты паспелі стрэліць толькі адзін раз. Сутыкненне было жахлівым. Ад лязгату мечаў, сякераў, пошчакаў арбалетаў, трэску паламаных дзідаў, іржання коней, крыкаў, енку, стогну стаяў страшэнны грукат, «як быццам абрушваўся нейкі велізарны будынак». Гул бітвы чулі людзі за некалькі кіламетраў ад месца падзеі.

Зацятая бойка цягнулася каля сямі гадзін. Шаля вагаў хісталася то ў адзін, то ў другі бок. Фактычна ішлі дзьве бойкі — на правым, літоўскім, і левым, польскім, флангах. Ліцвіны дзейнічалі больш вынаходліва, яны падманулі крыжакоў, прыкінуліся, быццам уцякаюць, рыцары кінуліся следам, расстроіўшы свае шэрагі. Тады іх акружылі і ўсіх пабілі. Урэшце пад вечар стала зразумела, што справы Ордэна кепскія. Ліцвіны і палякі, больш шматлікія, пачалі адольваць. Крыжакоў акружылі і дабівалі, пакуль не здаліся тыя нямногія, якія засталіся ў жывых. Загінулі амаль усе рыцары, у тым ліку хохмайстар і ўсе вышэйшыя чыны. Крыжакі спрабавалі бараніцца ва ўмацаваным абозе, але былі выбітыя магутным націскам. Толькі нямногія здолелі выратавацца ўцёкамі. Цэлую ноч працягвалася пагоня за ўцекачамі. Назаўтра, пахаваўшы забітых, падлічыўшы страты і на-

[1] П л ю м а ж — пучок пер'яў на макаўцы шлема.

быткі, войска пачало рыхтавацца да руху на Мальбарк.

Здавалася, што з ордэнскай дзяржавай у Прусіі было пакончана. Армія саюзнікаў без бою займала гарады і магутныя замкі. Жыхары многіх з іх самі абяззбройвалі крыжацкія залогі і перадавалі пераможцам. Заставалася толькі заняць Мальбарк і падзяліць між сабой здабытыя землі.

Аднак ліцвінаў і палякаў апярэдзіў комтур Генрых фон Плауэн, які з пачатку вайны прыкрываў шлях на Памор'е і ў Грунвальдскай бітве не ўдзельнічаў. Атрымаўшы вестку аб жахлівым разгроме ордэнскага войска, ён не губляючы часу павёў свой атрад да Мальбарка і паспеў арганізаваць абарону сталіцы. Мальбарк быў непрыступнай крэпасцю і, маючы добрыя запасы харчавання, зброі і рыштунку, мог вытрымаць любую аблогу. Амаль два месяцы ліцвіны і палякі трымалі ў аблозе ордэнскую сталіцу, але ўзяць яе не маглі. Нарэшце яны рушылі дамоў.

Вайна працягвалася далей і ўрэшце скончылася Торуньскім мірам у пачатку 1411 г. Ордэнская дзяржава ацалела, ёй нават удалося вярнуць амаль усе землі, страчаныя пасля Грунвальдскай бітвы. Але хрыбет драпежніку быў зламаны. Тэўтонскі ордэн ужо не змог узняцца да сваёй ранейшай магутнасці. Грунвальдская перамога назаўжды пакончыла з крыжацкай агрэсіяй супраць Літвы і Польшчы. І ў тым найвялікшае значэнне Грунвальда для нашага народа. Мы ніколі не павінны забываць аб тым, што гэтая слаўная старонка ўпісана ў беларускую гісторыю вялікім князем Вітаўтам.

## ШЛЯХ ДА ЕЎРОПЫ

Апошнія дваццаць гадоў княжання Вітаўта вызначаліся пачаткам гаспадарчага ўздыму краіны пасля заняпаду ў 14 ст. Мір і спакой усталяваліся на заходніх межах княства. Пасля разгрому пад Грунвальдам рыцары Тэўтонскага ордэна і думаць не маглі аб якім-небудзь наступленні на літоўскую тэрыторыю. Крывавыя крыжацкія набегі скончыліся назаўсёды. Людзі вярталіся на свае месцы, адбудоўваліся. Над спустошанымі

вайной абшарамі зноў падымаліся мірныя дымкі сялянскіх хатаў, зноў зелянелі жытнёвыя палеткі. На поўначы, усходзе і поўдні ніхто не адважваўся ўступаць у канфлікт з магутнаю Літвою.

Вялікі ўплыў Вітаўт меў на багатыя гарады-рэспублікі Ноўгарад і Пскоў. Маскоўскім князем на той час быў унук Вітаўта Васіль Васільевіч, які раіўся з дзедам па важных справах. Вялікі князь актыўна ўдзельнічаў у татарскіх праблемах, нават прызначаў ханаў. Здараліся таксама і набегі на яго землі варожых татарскіх атрадаў.

У Вітаўта было ўсё, што мог пажадаць чалавек у 15 ст. Па адным яго слове ўзводзіліся і бурыліся замкі, выраслі новыя вёскі і гарады. Калі князь куды-небудзь выязджаў, то па ўсёй дарозе яго чакалі свежыя коні. Гэты на дзіва вынослівы чалавек за кароткі час пераадольваў вялізныя адлегласці. Князь мог дазволіць сабе самую дарагую раскошу ці заморскае дзіва. Жонка Вітаўта, вялікая княгіня Ганна, аднойчы на піры ў Прусах выйшла ў такім шыкоўным і дарагім строі, што бывалыя еўрапейскія госці былі літаральна ашаломлены і занатавалі такое здарэнне ў сваіх дзённіках.

Здавалася б, жыві сабе, смачна еш, мякка спі і кіруй краінай. Але Вітаўта такое салодкае жыццё не прываблівала. Ён быў папраўдзе дзяржаўным чалавекам, рупіўся аб сваёй краіне. Лёс Літвы стаў яго лёсам, яе інтарэсы — кроўнымі справамі князя. Вітаўт нястомна працаваў. Летапісец паведамляе, што ён нават у дарозе займаўся справамі дзяржавы, прымаў і выслухоўваў наведнікаў, вырашаў спрэчкі і судовыя справы. Ён быў справядлівым суддзёй і за адно гэта карыстаўся вялікай павагай. Калі князь стамляўся, то гуляў у шахматы, або выязджаў на паляванне.

Перамога пад Грунвальдам над Тэўтонскім ордэнам падняла міжнародны аўтарытэт Літвы і яе гаспадара. Доўгі час гэтая краіна ўяўлялася еўрапейцам далёкай ускраінай, заселенай дзікунамі. Вітаўт здолеў давесці адваротнае. Вялікае княства Літоўскае трывала ўвайшло ў ганаровае кола еўрапейскіх дзяржаваў, пастунова яно становіцца ўплывовым фактарам еўрапейскай палітыкі. За дапамогай да Літвы звяртаюцца самыя розныя краіны. Венецыянская рэспубліка і каралеўства Чэхія шукалі ў Вітаўта падтрымкі супраць германскага імператара. Справа зайшла так далёка, што вялікаму князю

літоўскаму была прапанавана чэшская карона, і ён даў згоду яе прыняць.

У Чэхіі ў першыя дзесяцігоддзі 15 ст. разгарнуўся магутны нацыянальна-вызваленчы рух супраць немцаў і каталіцкай царквы. Яго ўдзельнікі называлі сябе гусітамі, гэта значыць паслядоўнікамі чалавека, які меў прозвішча Гус. Ян Гус — рэктар Пражскага універсітэта палымяна заклікаў да справядлівасці, абвінавачваў каталіцкую царкву за імкненне да багацця і маральную распусту. Гус канфліктаваў з нямецкімі прафесарамі, якія выступалі супраць яго рэфарматарскіх ідэй.

6 ліпеня 1415 г. па прысуду вышэйшага святарства Гуса спалілі на вогнішчы. Гвалтоўная смерць Гуса выклікала абурэнне ва ўсёй Чэхіі. Яго паслядоўнікі захапілі ўладу ў краіне і паспяхова ваявалі з германскім імператарам, які спрабаваў задушыць рух і авалодаць Чэхіяй. Гусіты звярнуліся за дапамогай да Літвы і прапанавалі Вітаўту стаць іхнім каралём. Вітаўт прыняў прапанову і накіраваў у Чэхію свайго намесніка князя Жыгімонта Карыбутавіча з пяцітысячным войскам. Некалькі гадоў ліцвінскі князь кіраваў каралеўствам, пакуль не пацярпеў паражэнне і быў змушаны вярнуцца.

У тыя часы Вітаўт ужо быў чалавекам сталага веку, меў узрост больш за 70 гадоў. Ён умела кіраваў краінай, клапаціўся аб дзяржаўнай гаспадарцы, падтрымліваў мір і спакой. Сяляне працавалі, здабывалі хлеб, баяры і князі ваявалі — баранілі дзяржаву, святары дбалі аб выратаванні душаў. Над усімі стаяў вялікі князь, ён увасабляў сабой дзяржаву, і яго называлі гаспадаром.

Вітаўт шчодрай рукой раздаваў узнагароды за дзяржаўную службу і найперш баярам шляхце, якая падтрымала яго ў барацьбе за ўладу, бараніла краіну ў бясконцых войнах і паходах. У 1413 г. Гарадзельскім прывілеем князь надаў асаблівыя правы і вольнасці найбольш слынным баярскім родам каталіцкага веравызнання. Не забываў гаспадар і сваіх праваслаўных падданых, дараваў землі праваслаўнай царкве і баярам, якія спавядалі праваслаўную веру.

Спакойнымі сталі адносіны князя з польскім каралём і стрыечным братам — Ягайлам. Яны часта сустракаліся, абмяркоўвалі дзяржаўныя справы, успаміналі мінулыя гады.

У 1418 г. памерла жонка Вітаўта, вялікая княгіня Ганна, з якой ён прайшоў поруч лепшыя гады жыцця. Князь моцна гараваў, але праз некаторы час жаніўся другі раз на княгіні Юлляне Гальшанскай.

Дзяржаўная энергія Вітаўта з гадамі не слабела. Ён па-ранейшаму ўпэўнена кіруе гаспадарствам, прымае адказныя рашэнні, вядзе актыўную дыпламатычную перапіску. Імператар Свяшчэннай рымскай імперыі звяртаецца да яго з вялікай павагай, рымскі папа шле князю сваё блаславенне. Аслаблены Тэўтонскі ордэн з усіх сіл стараецца падтрымліваць мір з Літвой і адначасова пасварыць яе з Польшчай. Германскі імператар Жыгімонт не аднойчы прапаноўваў Вітаўту зрабіць вялікае княства каралеўствам. Нарэшце князь вырашыў, што прыйшоў час, і даў згоду на каранацыю. Яна павінна была адбыцца ў 1430 г. у Вільні. Шматлікія госці, уладары з розных краінаў з’ехаліся да літоўскай сталіцы, каб прысутнічаць на гэтай падзеі. Папа рымскі ўрачыста асвяціў літоўскую карону, падрыхтаваную германскім імператарам. Спецыяльнае пасольства павезла яе ў Літву. Аднак па дарозе абоз быў затрыманы адным з польскіх паноў. Госці Вітаўта пасля доўгага чакання пачалі патроху раз’язджацца з Вільні.

Вялікі князь таксама не дачакаўся сваёй кароны. У 1430 г. па дарозе з Вільні да Трокаў 80 гадовы Вітаўт упаў з каня, быў перавезены ў Трокі, дзе праз некалькі дзён памёр. Уся краіна аплаквала яго смерць. Польскі гісторык Длугаш пісаў, што гэты чалавек здаваўся годным жалю і слёз не толькі свайму, але і іншым народам.

Так закончылася жыццё вялікага князя Вітаўта. Дзякуючы свайму дзяржаўнаму розуму, працаздольнасці і таленавітасці Вітаўт узвысіў Вялікае княства Літоўскае, зрабіў яго славутай еўрапейскай дзяржавай. Ён шмат паспеў папрацаваць для радзімы. Ён пакінуў Літву ў росквіце славы і велічы, мір і спакой запанавалі на яе межах. Нашыя продкі атрымалі магчымасць бесперашкодна ладзіць сваё жыццё, будаваць гарады і мястэчкі, ствараць дзівосныя творы мастацтва, унікальную беларускую культуру.

За гэта мы шануем памяць нашага слаўнага продка — вялікага князя Вітаўта.

## АСНОЎНЫЯ ПАДЗЕІ Ў ЖЫЦЦІ ВІТАЎТА

1350 г. — у Троках (?) у сям'і Кейстута нарадзіўся хлопчык Вітаўт.

1363, 1370, 1372 — першыя ваенныя паходы Вітаўта пад началам бацькі і дзядзькі — вялікага князя Альгерда.

1377 г. — першы самастойны паход супраць Тэўтонскага ордэна.

1377 г. — памёр вялікі князь Альгерд.

1380 г. — патаемная змова Ягайлы з крыжакамі.

1381 г. — Кейстут заняў Вільню і арыштаваў Ягайлу.

1382 г. — Ягайла захапіў у палон Кейстута і Вітаўта. Кейстут задушаны ў Крэўскім замку, Вітаўт уцякае з няволі ў Прусію.

1384 г. — Вітаўт заміры́ўся з Ягайлам і вярнуўся ў Літву.

1385 г. — Крэўская унія Літвы і Польшчы.

1390 г. — Вітаўт зноў адыходзіць у Прусію. Адзіная дачка Вітаўта Соф'я прымае шлюб з вялікім князем маскоўскім Васілём Дзмітравічам.

1392 г.— новае замірэнне Вітаўта з Ягайлам, Астравецкае пагадненне, Вітаўт становіцца вялікім князем.

1395 г. — далучэнне да Вялікага княства Літоўскага Смаленскага княства.

1398 г. — Салінскі мір з Тэўтонскім ордэнам.

1399 г. — паражэнне ад татараў на рацэ Ворскле.

1409—1411 гг. — Вялікая вайна з Тэўтонскім ордэнам.

15 ліпеня 1410 г. — Грунвальдская (Таненбергская, Дубровенская) бітва.

1413 г. — Гарадзельскі прывілей баярам-каталікам.

1418 г. — памерла вялікая княгіня Ганна.

1422 г. — Вітаўт прымае прапанову чэхаў стаць іхнім каралём.

1430 г. — падрыхтоўка да каранацыі, смерць вялікага князя.

# ЗМЕСТ



Навукова-папулярнае выданне

**КРАЎЦЭВІЧ Аляксандр Канстанцінавіч**

**ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ВІТАЎТ**

*Нарыс*

Рэдактар *М. М. Зарэмба*
Мастацкі рэдактар *В. А. Макаранка*
Тэхнічны рэдактар *А. В. Русецкая*

Здадзена ў набор 01.07.95. Падпісана да друку 25.03.96. Фармат 70x90$^{1}/_{16}$ . Папера афсетная. Гарнітура Кудрашэўская Энцыклапедычная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 3,51. Ум. фарб.-адб. 14,92. Ул.-выд. арк. 2,52. Тыраж 3000 экз. Зак. 832.

Дзяржаўнае прадпрыемства «Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 7 16.03.1993 г. 220600, Мінск, Машэрава, 11.

Мінская фабрыка каляровага друку. 220024, Мінск, Каржанеўская, 20.

Дыяпазітывы тэксту падрыхтаваны Мінскім ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінатам МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.